21 кастрычніка 2016 | № 40 (505)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

І пра касмічнае надвор'е
Стар. 12

ISSN 2218-2144

4 РЭВАЛЮЦЫЯ, ЭВАЛЮЦЫЯ, ДЭГРАДАЦЫЯ...
Сярод родных бяроз і асін усе рэвалюцыі пачыналіся зверху, а іх лідарамі станавіліся перабежчыкі з кіруючага класа

5 «БЕЛАРУСАЎ МОГУЦЬ ВЫКАРЫСТАЦЬ ЯК ГАРМАТНАЕ МЯСА»
Рэдактар беларускага аддзелу «Informnapalm» Дзяніс Івашын распавядае пра верагодныя сцэнары расійскай агрэсіі і неабходныя крокі, каб зберагчы незалежнасць



7–10 ЭКАНАМІЧНАЯ БЕЛАРУСЬ



14 ВАЛЯНЦІНА ВЯРГЕЙ: З БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ У СЭРЦЫ
Свае 70-годдзе адзначала выбітная даследчыца гістарыяграфіі археалогіі Беларусі і старажытнага мінулага насельніцтва Беларускага Палесся Валянціна Вяргей



# Наперадзе чарговая нафтагазавая

## Расія стварае магчымасці для чарговай нафтагазавай вайны з Беларуссю



Сяргей ПУЛЬША

На тыдні з Расіі прыйшла вельмі цікавая навіна. Як паведаміла выданню «Коммерсантъ» крыніца, на гэтым тыдні ўпраўленне ААТ «Расійскія чыгункі» разгледзіць магчымасць зніжкі ў 25% на транзітныя перавозкі бензіну, дызпаліва і мазуту з НПЗ Беларусі ў расійскія парты Паўночнага Захаду.

Як піша расійская газета, зніжка «зробіць тарыф чыгунак РФ у гэтым кірунку супастаўным з тарыфамі на парты Вентспілса і Клайпеды», а прыцягнуты аб'ём перавозак нафтапрадуктаў забяспечыць ААТ «Расійскія чыгункі» дадатковыя даходы — каля 8 мільярдаў расійскіх рублёў у год (больш за 126 мільёнаў долараў).

Канешне, прапанова заманлівая. Перспектыву перакідкі беларускага транзіту ў Расію Лукашэнка і Пуцін абмяркоўвалі яшчэ ў 2012 годзе. Беларусі гэта было цікава, каб дыверсіфікаваць занадта шчыльную прывязку да партоў краін Балтыі, якія палітычна былі «ворагамі», бо сталі часткай Еўрасаюзу, які ціснуў санкцыямі пасля выбараў 2010-га.

Аднак эксперты адназначна сцвярджалі: эканамічна такая дыверсіфікацыя мала выгадная. Па-першае, шлях нафтапрадуктаў у расійскія парты, як правіла, даўжэйшы: выключэнне складае толькі маршрут Наваполацкі НПЗ — расійскі порт Усць-Луга. Зараз ННПЗ супрацоўнічае з эстонскім портам Муга, адлегласць да якога 852 кіламетраў. Да Усць-Лугі — 803 кіламетры. Шлях да расійскага порта атрымліваецца карацейшы, але не нашмат.

Па-другое, у расіянаў не вельмі развітая (калі не сказаць адсутнічае) адпаведная інфраструктура. Аж да таго, што тагачасны міністр камунікацый і транспарту Літвы Элігіюс Масюліс нават не пераймаўся з нагоды ідэй Лукашэнкі і Пуціна. «Інфраструктура Пецярбургскага порта і іншых партоў недастаткова развітая, і наўрад ці ў агляднай будучыні будзе гатовая да дадатковага абслугоўванні вялікага аб'ёму грузаў. Эканамічны фактар — кошт, хуткасць і якасць перавозкі грузаў — на нашым баку», — казаў ён.

Па-трэцяе, эксперты казалі, што ААТ «Расійскія чыгункі», каб перацягнуць беларускія нафтапрадукты на свой бок, павінна знізіць кошты на перавозкі не на 25%, а на 40% як мінімум, а лепш на 50%. Толькі тады Беларусі становіцца выгаднай пераарыентацыя нафтапрадуктаў з партоў краін Балтыі ў расійскія.

Але з 2012 года прайшло шмат часу. Сітуацыя змянілася. І змянілася яна не ў лепшы для расіян бок.

У красавіку 2013 года «Беларуськалій» набыў пакет акцый (30%) аднаго з аператараў тэрмінала ў Клайпедскім порце — ЗАТ «Biriu kroviniu terminalas». Таму не дзіўныя лічбы, агучаныя паслом Беларусі ў Літве Аляксандрам Каралём у інтэрв'ю «Вячэрняму Гродна»: у 2015 годзе праз Клайпедскі порт перавалена звыш 90% агульнага аб'ёму экспарту «Беларуськалія», адпраўленага праз марскія парты, і ўвесь аб'ём экспарту ААТ «Гродна Азот».

Паміж ЗАТ «Беларуская нафтавая кампанія» і літоўскай АТ «Клайпедас нафта» падпісаная доўгатэрміновая дамова на перавалку мазуту і іншых нафтапрадуктаў вытворчасці Мазырскага і Наваполацкага НПЗ. Па дадзеных «Клайпедас нафта», транзіт беларускіх нафтапрадуктаў праз тэрмінал кампаніі за дзевяць месяцаў 2015 года дасягнуў за 1,6 мільёна тон.



**Нявыгадныя для сябе дамовы, зразумела, выконваць ніхто не будзе**

Аналагічная сітуацыя з Латвіяй. За 8 месяцаў 2016 года з Беларусі было вывезена 4 мільёны тон нафтавых грузаў, што складае 80,9% ад агульных міждзяржаўных перавозак паміж Латвіяй і Беларуссю.

То бок, «дарога да мора» ў нас пратаптаная. І чаму «Расійскія чыгункі» думаюць, што Беларусь адмовіцца ад кароткіх, звыклых і зручных маршрутаў на іх карысць?

Ёсць сур'ёзная падстава для занепакоенасці. Раней у федэральных СМІ Расіі з'явіліся публікацыі пра тое, што Крэмль прапануе Беларусі новае міжурадавае пагадненне, па якім бяспошлінныя пастаўкі нафты з Расіі прывяжуць да абавязацельстваў Беларусі па экспарту пэўных аб'ёмаў нафтапрадуктаў праз расійскія парты.

Шчыра кажучы, нафтавы шантаж Расіі ўжо надакучыў. Зразумела, што для Беларусі нафта — гэта «нашае ўсё». Аднак зараз пастаўкі нафты прывязаныя да абавязальніцтваў пастаўляць у Расію пэўную колькасць бензіну. Добра хоць тое, што наш бок выбіў для сябе ўмовы не пастаўляць гэты бензін, калі гэта будзе эканамічна нявыгадна. Мы паўгода разрульвалі газавы канфлікт, у ходзе якога Расія ў аднабаковым парадку прывязала тыя ж пастаўкі нафты да аплаты за газ. Зараз Расія намагаецца ўвесці ў тыя ж пастаўкі нафты новыя ўмовы і абавязальніцтвы для нашай краіны — ужо па транзіце нафтапрадуктаў. Прычым, зноў, выгаднасць гэтага транзіту для нас сумнеўная.

Зразумела, што нявыгадныя для сябе ўмовы, хай яны і пяць разоў прапісаныя ў міжурадавых пагадненнях, выконваць ніхто не будзе. Такім чынам Расія, спрабуючы завязаць пытанне паставак нафты на чарговыя патрабаванні, проста стварае перадумовы для новай нафтагазавай спрэчкі ці «нафтагазавай вайны».

# Судзяць нашу гісторыю

Алесь КІРКЕВІЧ

**Другі тыдзень пад Мінскім гарадскім судом адбываюцца акцыі падтрымкі стваральніка сайта 1863x.com Эдуарда Пальчыса.**

Суд праходзіць у закрытым рэжыме, таму трапіць туды можа толькі адвакат. Жонка Эдуарда Вікторыя Пальчыс у судовую залу можа трапіць толькі ў якасці сведкі па працэсе. Як доўга могуць зацягнуцца пасяджэнні, пакуль не вядома: са словаў Вікторыі, сама справа, перададзеная ў суд следчымі, даволі аб'ёмная. Нагадаем, што публіцысту Эдуарду Пальчысу інкрымінуюць «распальванне міжнацыянальнай варожасці» ды «распаўсюд парнаграфіі».

Штодня пад сценамі суда праходзяць акцыі пратэсту. Зазвычай колькасць пратэстоўцаў вагаецца ад пяці да пятнаццаці чалавек. Людзі прыносяць з сабой бел-чырвона-белыя сцягі ды партрэты падсуднага. Тут жа міліцыянты складаюць на іх пратаколы, а група фіксацыі ў штацкім здымае ўсё на відэа. Людзі спартовага складу ў цывільным заўжды побач, але пратэстоўцаў пакуль не чапаюць.

Са словаў адваката Ганны Бахціной, у судовай залі, дзе праходзіць працэс, лозунгі і крычалкі з вуліцы выдатна чуваць. Сам Эдуард перадае падзяку кожнаму, хто прыходзіць пад будынак суда яго падтрымаць, і абяцае падзякаваць асабіста, калі выйдзе на свабоду. Сам палітвязень, паводле адваката, трымаецца бадзёра, мае баявы настрой. Утрымліваюць Эдуарда ў мінскім СІЗА на Валадарскага.

У лістах, якія атрымлівае ад мужа Вікторыя Пальчыс, той піша, што «ўсё зрабіў правільна ў патрэбны для краіны момант». Паводле Вікторыі, у зняволенні Эдуард стаў яшчэ больш цвёрдым і перакананым у сваёй пазіцыі. Разам з прадуктовымі перадачамі ў дазволеным фармаце, Вікторыя стараецца перадаваць мужу гістарычную ды мастацкую літаратуру. Асноўныя заняткі Эдуарда за кратамі: чытанне ды ліставанне. Палітвязень стараецца адказваць кожнаму, хто дасылае яму лісты са словамі падтрымкі.

Паралельна з пратэстамі пад будынкам «Маладога фронт» арганізаваў збор подпісаў пад адным з артыкулаў Эдуарда, які яму інкрымінуюць пад артыкулу аб «распальванні міжнацыянальнай варожасці». Згодна лідару МФ Зміцеру Дашкевічу, задума акцыі ў тым, каб паказаць: «Такую пазіцыю мае не толькі Пальчыс, калі ўлады хочуць — хай саджаюць на лаву падсудных усіх падпісантаў».

# Штраф нягледзячы на рэанімацыю

Марат ГАРАВЫ

**У Вольгі Юнкевіч, якая ад судовых стрэсаў апынулася ў рэанімацыі з інфарктам, утрымліваюць адміністрацыйны штраф з грошай, якія ёй налічваюць па бюлетэні.**

Нагадаем, што 12 мая ў Мінску на плошчы Свабоды разам з іншымі актывістамі Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконнасці ў судах і пракуратуры 72-гадовая працуючая пенсіянерка — былая настаўніца Вольга Юнкевіч — правяла несанкцыянаваны пікет.

Жанчына трымала плакат: «Адпіскі чыноўнікаў разбурылі маю сям'ю». Цягам дзевяці гадоў яна дамагаецца справядлівага вырашэння сваёй грамадзянскай справы, у выніку якой яе ўласны дом у Мінскім раёне падзелены на тры кватэры, а грошы, якія жанчына павінна была атрымаць за падзел дома, зніклі з дэпазітнага рахунка суда Мінскага раёна. Аднак па гэтаму факту праваахоўнікі адмаўляюцца распачынаць крымінальную справу.

1 чэрвеня суддзя суда Цэнтральнага раёна Мінска Вікторыя Шабуня аштрафавала Вольгу Юнкевіч на 30 базавых велічынь (630 рублёў). Аднак суд адбыўся без удзелу пенсіянеркі. Ні позву ў суд, ні пастанову суддзі жанчына не атрымлівала. Пра суд і штраф пенсіянерка даведалася толькі ад судовых выканаўцаў аддзелу прымусовага выканання Мінскага раёна, якія 8 жніўня наведалі жыллё Вольгі Юнкевіч, каб апісаць яе маёмасць. На адпаведную рэакцыю пенсіянеркі судовыя выканаўцы заявілі: «Не падабаецца — з'язджайце з краіны!»

«І гэта мяне больш за ўсё абурыла, бо Беларусь — мая радзіма, дзе маі карані і парасткі, дзе я пражыла ўсё жыццё і прапрацавала настаўніцай біялогіі каля 40 гадоў», — падкрэсліла Вольга Юнкевіч.

І хаця судовыя выканаўцы прыйшлі да высновы, што маёмасць жанчыны апісанню не падлягае, 12 жніўня ад перанесенага стрэсу пенсіянерка захварэла, а 23 жніўня апынулася ў рэанімацыі з інфарктам.

Разам з тым Юнкевіч было адмоўлена ў разглядзе касацыйнай скаргі на пастанову суддзі Вікторыі Шабуні, бо старшыня суда Цэнтральнага раёна Юры Лебедзь вярнуў жанчыне гэтую скаргу.

# У турму за апазіцыянера

Алесь КІРКЕВІЧ

**Пацярпелы быў супраць пазбаўлення волі хулігана, але суд вырашыў інакш.**

Нагадаем, 10 ліпеня на перадвыбарчы пікет Юрася Губарэвіча напалі некалькі чалавек. Спачатку абражалі, пасля пусцілі ў ход кулакі. У выніку актывіст Руху «За Свабоду» Аляксандр Русевіч атрымаў тры ўдары: два кулаком у галаву і адзін нагой у тулава. Міліцыянты, якіх актывісты выклікалі на месца здарэння, у хуткім часе знайшлі нападніка.

Зрабіць гэта было не так складана — хлопцы былі п'яныя. Завадатара бойкі Аляксандра Свірыда змясцілі пад варту на два дні, а пасля адпусцілі пад падпіску аб нявыездзе — да суда. Абвінавацілі нападніка ў хуліганстве паводле часткі 1 артыкула 339 Крымінальнага кодэкса («Хуліганства»).

Галоўны нападнік — хлопец 1989 года нараджэння, які працуе на аўтамыйні. Раней ужо некалькі разоў прыцягваўся да адказнасці па крымінальных артыкулах, упершыню сеў у 17 гадоў. Меў праблемы з алкаголем, лячыўся ў ЛПП. Жыве з маці ды сястрой.

У судзе Свірыд распавёў, што папярэдне са знаёмым яны выпілі дзве бутэлькі гарэлкі, а калі знаёмы зноў пайшоў у краму, вырашыў падысці да пікетоўцаў.

«Кажу, чым вам Лукашэнка не падабаецца? — тлумачыў Свірыд. — Агітатар пачаў грубіць, я зрабіў заўвагу. Я яго ўдарыў і сышоў. Мой стан? Нармальны, не хістаўся. П'яны, але не вельмі».

Русевіч распавёў, што хлопец, які падышоў у той дзень да пікету, меў моцны пах алкаголю ды неахайны выгляд. Калі пачалася бойка, падаспелі мінакі, каб адцягнуць нападніка. Пасля хлопец сышоў разам са знаёмым яшчэ да прыезду міліцыі: давялося шукаць па дварах, дзе тыя працягвалі выпіваць.

Пацярпелы не прасіў пазбаўлення волі для хулігана, адно штраф — кампенсацыю маральнай шкоды. Затое памочнік пракурор запрасіла акрамя штрафу тры месяцы пазбаўлення волі.

Такой жа пазіцыі трымаўся і прысутны на судзе старшыня Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч: «У іншым разе падобныя інцыдэнты паўторацца, бо патэнцыйныя нападнікі атрымаюць «зялёнае святло». Маўляў, апазіцыя па-за законам, яе можна абражаць, збіваць і так далей. Караць трэба жорстка».

У выніку суд пакараў нападніка трыма месяцамі арышту ды штрафам памерам 300 рублёў. Аляксандр Свірыд мае яшчэ месяц, каб абскардзіць вырак.

# Маці хоча дабіцца праўды

Генадзь КЕСНЕР

**У пятніцу, 21 кастрычніка, у судзе Маскоўскага раёна Мінска будзе абвешчаны прысуд па справе фельчара Следчага ізалятара №1 Аляксандра Крылова, якога вінавацяць у смерці Ігара Пціčкіна.**

Сваёй віны па частцы 2 артыкула 162 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь Крылоў не прызнаў, спасылаючыся на заключэнні экспертаў аб тым, што смерць маладзёна сталася вынікам вострай сардэчнай недастатковасці, якая развілася на тле спалучанай залежнасці ад алкаголю і псіхатропных рэчываў, стану адмены і фізічнага сцяснення. Справа ў тым, што Ігар Пціčкін быў прывязаны да ложку амаль на суткі. Сам Крылоў у сваім апошнім слове папрасіў яго апраўдаць.

Напярэдадні абвяшчэння судовай пастановы на пытанні «Новага Часу» адказаў **Аляксандр Галіеў**, адвакат, які ў судзе прадстаўляе інтарэсы Жанны Пціčкінай, маці Ігара.

***— Якая пастанова суда задаволіла б маці Ігара Пціčкіна і вас як адваката?***

— Натуральна, яе задаволіць абвінавачвальны прысуд. Пры гэтым варта звярнуць увагу, што вырак, які б яе цалкам задаволіў, павінен растлумачыць не толькі тыя цялесныя пашкоджанні, па якіх крымінальная справа была накіравана ў суд (звязаныя з фіксацыяй), а той вырак, які б растлумачыў паходжанне ўсіх цялесных пашкоджанняў. Бо тыя цялесныя пашкоджанні даўнінай ад сямі да дзесяці сутак, як указваюць эксперты, на жаль, у нашым пасяджэнні не разглядаюцца.

***— Ці прагучалі ў судзе пераканаўчыя доказы віны Крылова?***

— Я лічу, што прагучалі дастаткова пераканаўчыя доказы яго віны. Яны звязаны не толькі з цялеснымі пашкоджаннямі, на якія ўказалі эксперты і якія маглі ўзнікнуць непасрэдна ад фіксацыі. Шмат доказаў, што Пціčкін утрымліваўся дастаткова працяглы час, што Крылоў не меў паўнамоцтваў на ўжыванне такіх мер. Ёсць адпаведныя загады Міністэрства аховы здароўя, якія агалошваліся, ёсць высновы спецыялістаў, экспертаў, якія сведчаць пра тое, што сапраўды Крылоў не меў паўнамоцтваў на выкарыстанне такіх жорсткіх захадаў.

***— Што засталося па-за ўвагай СМІ падчас асвятлення ходу гэтай крымінальнай справы?***

— Не магу сказаць, што штосьці засталося па-за ўвагаю, я не аналізаваў усе крыніцы інфармацыі. Проста, магчыма, дзесьці журналісты былі недакладныя ў сваіх высновах ці каментарах, у прыватнасці, па выніках судовых спрэчак. Але пра штосьці хацела казаць Жанна Уладзіміраўна, і што апроч абвінавачання, выстаўленага Крылову, яшчэ з'яўляецца асабліва важным для нас, гэта, канешне, тыя цялесныя пашкоджанні няясная паходжання, якія не тлумачацца матэрыяламі папярэдняга расследавання, што паступілі ў суд.

У маці Пціčкіна ёсць фота, і ёсць фота, якія рабілі эксперты, на якіх непасрэдна пасля паступлення ў морг цела Ігара, на якіх добра бачны розныя цялесныя пашкоджанні сіняга, чырвонага колеру. Дык вось, усе супрацоўнікі СІЗА ў адзін голас нам заявілі, што ніякіх цялесных пашкоджанняў яны ў Пціčкіна ў прынцыпе не бачылі. І вось гэтыя абставіны вельмі цікавыя. Канешне, гэта абсурдная пазіцыя, але яны яе прытрымліваюцца, нягледзячы на фотаздымкі і высновы экспертаў.

***— Што для вас было самае цяжкае ў гэтай справе?***

— Гэтай справай мы займаліся тры гады. Складанасць, натуральна, была ў тым вялікім аб'ёме медычных заключэнняў, комплексных экспертызаў і гэтак далей, якія трэба было аналізаваць, сістэмна заяўляць хадайніцтвы аб правядзенні тых ці іншых экспертызаў, аб пастаноўцы тых ці іншых пытанняў на экспертызу. Апроч таго, мы неаднаразова абскарджвалі тыя ці іншыя пастановы следства. Першы раз нам адмовілі і спынілі крымінальную справу яшчэ ў 2014 годзе. Калі мы напісалі скаргу ў Генеральную пракуратуру, яны адмянілі пастанову аб спыненні справы і зноў накіравалі яе ў галоўнае следчае ўпраўленне, але ў іншы аддзел.

Ведаеце, працаваць з маці, якая страціла сына, — гэта заўжды складана. Таму варта адзначыць, што, калі б не асабістая мэтанакіраванасць Жанны Пціčкінай, то гэтая справа магла б і не разглядацца ў судзе. Натуральна, яе ўпэўненасць у сваёй праваце, яе вера ў тое, што яна даб'ецца праўды, нягледзячы ні на што, — гэта, канешне, наймацнейшы чыннік.

Нагадаем, 30 ліпеня 2013 года Ігар Пціčкін апынуўся ў СІЗА №1 МУС, калі парушыў умовы пастановы суда аб пазбаўленні правоў на кіраванне транспартным сродкам цягам пяці гадоў. 4 жніўня сваякі, што забіралі цела маладзёна пасля судова-медыцынскай экспертызы (ускрыцця), заўважылі на целе памерлага шматлікія цялесныя пашкоджанні і гематомы. З тых часоў маці спрабуе дабіцца праўды.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Хто чыё люстэрка

Сяргей САЛАЎЁЎ

**На гэтым тыдні мы шмат пра што даведаліся. Найперш пра тое, што Палата прадстаўнікоў, нібыта абраная намі ўсяго месяц таму, сапраўды з'яўляецца адлюстраваннем дзяржавы і грамадства.**



Вось, напрыклад, дэпутаты абіралі сабе кіраўніцтва. Старшынёй камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы прадказальна быў «абраны» былы пасол РБ у Аўстрыі і Харватыі Валер Варанецкі. Прадстаўнік Ліберальна-дэмакратычнай партыі Анатоль Хішчанка вырашыў стаць яго намеснікам і вылучыў сваю кандыдатуру. Аднак высветлілася, што ўсе ўжо прызначаныя!

«Мы ж не галасавалі! Я таксама выставіў сваю кандыдатуру, але галасавання наогул не было!» — абурыўся Хішчанка.

Можна падумаць, што ён не ведае, як у Беларусі праходзяць выбары! Як у краіне, так і ў парламенце. І, як звычайна, аказалася, што «канцоў не знойдзеш». Бо толькі што абраны старшыня камісіі з'ехаў у камандзіроўку. Новы парламент працуе лічаныя дні, а ў дэпутата — ужо камандзіроўка.

«Тады праводзьце яшчэ раз пасяджэнне камісіі і прагаласуйце», — параіў старшыня Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Андрэйчанка. І, каб не развіваць тэму, тэрмінова аб'явіў перапынак.

Адлюстраванне ў парламенце знайшлі не толькі хібы дзяржавы. У апазіцыйным асяродку шмат хто скардзіцца: камандзіраў і лідараў дастаткова, а вось шарагоўцаў ды «індзейцаў», каб праводзіць актыўную дзейнасць, амаль няма. Невядома, ці гэта прыўнеслі ў палату дзве апазіцыянеркі, ці так уплывае дзяржаўны працэс скарачэння дзяржапарату. У заканадаўчым органе налічваецца 14 камісій. У кожнай з іх ёсць старшыня і намеснікі. Напрыклад, у камісіі па прамысловасці намеснікаў аж чацвёра. У эканамічнай камісіі ёсць кіраўнік, тры яго намеснікі і толькі два «індзейцы», сярод якіх Ганна Канапацкая. На чатырох начальнікаў — два падначаленыя!

У выніку размеркавання пасадаў атрымалася, што агулам у палаце будуць працаваць 53 «начальнікі» (спікер і яго намеснік, 14 старшыняў камісій і 37 іх намеснікаў) і 57 простых дэпутатаў. На аднаго начальніка — адзін падначалены.

Калі казаць, што парламент з'яўляецца люстэркам грамадства, а дэпутаты выяўляюць волю народа, то гэта — наш яскравы народны адказ на ініцыятыву «дэбюракратызацыі».

Цікавая навіна прыйшла ад ААТ «Беларуськалій» — прадпрыемства будзе само збіраць аўтамабілі для перавозкі працаўнікоў пад зямлёй. Пра гэта паведаміў выконваючы абавязкі галоўнага інжынера прадпрыемства Андрэй Пятроўскі. Па словах прадстаўніка адміністрацыі, у гэтым годзе вырашана пытанне арганізацыі зборкі аўтамабіляў на базе РМЦ-4 сумесна з фірмай PAUS, якая будзе ажыццяўляць пастаўку аўтатранспартнай тэхнікі ў аб'ёме «незавершанай машыны».

Канешне ж, узнікае абавязковае пытанне: «А дзе ж МАЗ, МТЗ, аўтатрактарны факультэт БНТУ? А калі машына ездзіць не гарызантальна, а вертыкальна, няўжо задачу не вырашаць «Магілёўліфтмаш» альбо «Гомельліфт»?

Так, машыны PAUS, што ездзяць у шахтах, спецыфічныя. Калі паглядзець на іх у інтэрнэце, то пабачыш, што яны падобныя на мадэлі браніраваных машын беларускага ВПК «Барс» альбо «Ліс», якія выпускаюцца МЗКТ. Бо ездзяць у складаных і выбухованебяспечных умовах. Але ж пытанне застаецца: навошта нам нямецкі PAUS, няўжо МАЗ не здольны асвоіць выпуск гэтых машын? Ну, калі не выпуск, то хаця б зборку? «Беларуськалій» можа, а МАЗ — не? Навошта нам тады такі МАЗ?

Навіна з яшчэ аднаго горада і прадпрыемства выклікае неадназначнае стаўленне. У Магілёве плануюць паставіць помнік не чаму-небудзь, а ліфту. Такая задума ўзнікла ў мясцовых уладаў у сувязі са святкаваннем 50-годдзя ААТ «Магілёўліфтмаш».

Пакуль не вядома, што будзе прадстаўляць гэтая скульптурная форма, але ўжо дадзена распараджэнне знайсці для яе належнае месца. Усталяваць помнік ліфту, як лічаць у гарвыканкаме, — гэта не толькі прызнанне яго адным з брэндаў Магілёва, але і даніна павагі калектыву прадпрыемства, які на працягу паўстагоддзя забяспечвае яго паспяховае развіццё і дзейнасць.

Помнікі ставяць самі ведаеце дзе. Цікава, як успрыме гэтую ідэю калектыў прадпрыемства? І ці пакладуць да помніка вянок памяці?

Гэты манумент, падаецца, болей будзе нагадваць помнік усёй беларускай прамысловасці. А за прамысловасцю і сельскай гаспадаркай, цалкам можа быць, давядзецца ставіць помнікі іншыя. Напрыклад, суверэнітэту і незалежнасці Беларусі. Гэтаму спрыяюць мясцовыя ўлады ў некаторых раёнах Беларусі.

На тыдні Хойніцкі і Буда-Кашалёўскі райвыканкамы забаранілі актывісту Гомельскага Цэнтра стратэгічнай цяжбы (ГЦСТ) Сяргею Касабуцкаму правесці на цэнтральных плошчах райцэнтраў пікеты, якія той заявіў на 20 і 21 кастрычніка з мэтай прыцягнення ўвагі грамадскасці да неабходнасці абароны незалежнасці і суверэнітэту Беларусі.

Прычыны адмовы — заяўнік не падаў дамовы на ахову мерапрыемстваў, іх медыцынскае абслугоўванне і вываз смецця. Акрамя таго, рашэннем чыноўнікаў месцам правядзення масавых мерапрыемстваў у райцэнтрах вызначаны месцы на ўскраінах, у той час як у заяўцы былі ўказаны цэнтральныя плошчы «на адлегласці, не бліжэй за 50 метраў ад будынкаў райвыканкамаў». Раней аналагічныя забароны былі атрыманы ў Карме і Добрушы.

Якую выснову з гэтага павінен зрабіць беларускі патрыёт? Прыкладна, такую: вываз смецця для ўладаў у Гомельскай вобласці значна больш каштоўны, чым незалежнасць і суверэнітэт. Ці не так?

Але лідарам цікавых навінаў усё адно застаецца Аляксандр Рыгоравіч. На сустрэчы з прэзідэнтам Татарстана Рустамам Мініханавым у Мінску ён прапанаваў прыцягнуць «Беларуснафту» для працы ў нафтавай галіне Татарстана. Пры гэтым Лукашэнка адзначыў, што ў Беларусі тэмпы здабычы нафты падаюць, бо «ў свой час нафту выпампавалі і вывезлі з Беларусі».

За ўсю гісторыю «нафтавай Беларусі» рэкорд здабычы нафты склаў 8 мільёнаў тон (1975), а стабільная здабыча ўсталявалася ў 1984 годзе на ўзроўні 2 мільёнаў тон у год. Саудаўская Аравія, ЗША і Расія, узятыя паасобку, перавышаюць гадавую здабычу беларускай нафты за два дні.

Хто ж выпіў усю нашу нафту? Пытаннечка.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Станіслаў Шушкевіч

**Ядзерную зброю мы вывелі праз абяцанні, якія так і засталіся абяцаннямі, ніякіх міжнародных гарантаў тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі краіна не мае.**

Гэтую сенсацыю агучыў былы кіраўнік краіны Станіслаў Шушкевіч у інтэрв'ю выданню «Гардон».

Паводле яго слоў, Будапешцкі мемарандум, на які спасылалася Украіна пасля нападу Расіі, і які згадвае Беларусь — усяго толькі мемарандум. Будапешцкую дамову так і не зрабілі пагадненнем, якое было б падмацавана заканадаўствам ЗША і Вялікабрытаніі.

«Ніякіх Будапешцкіх пагадненняў не было. Быў мемарандум, дэкларацыя. Гэта розныя рэчы: дэкларававаць і заключыць дамову. Напрыклад, пагадненне аб стварэнні СНД. Яно падпісана і ратыфікавана дзяржавамі. А тут было выказана меркаванне кіраўнікоў, што гарантамі цэласнасці Украіны з'яўляюцца такія краіны. Але ніхто гэтага не праводзіў праз заканадаўства Брытаніі ці Злучаных Штатаў. Таму гэта пратакол аб намерах», — сказаў Шушкевіч.

Паводле Шушкевіча, тое, што мемарандум не давялі да пагаднення — «пралік даверлівых людзей».

Калі Станіслаў Станіслававіч нічога не пablытаў, то гэта сенсацыя. Атрымліваецца, што сваю палітыку бяспекі наша краіна, як і Украіна, будавала, арыентуючыся на міжнародныя гарантыі, якія на самай справе існавалі толькі ў намерах. Ці, прасцей кажучы, не існавалі ўвогуле.

## Мікалай Лазавік



**Сакратар Цэнтрвыбаркама ўжо пенсіянер. Лукашэнка падпісаў указ аб вызваленні яго з пасады 17 кастрычніка.**

Прычына адстаўкі — стан здароўя. У гэтым годзе Лазавік перанёс складаную анкалагічную аперацыю.

Сакратар ЦВК заўсёды ахвотна стасаваўся з журналістамі. Ён мог на іх крыўдзіцца, мог з імі нават сварыцца, але ніколі не адмаўляўся размаўляць. За гэта яго паважалі.

Мікалай Лазавік быў дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Ён нават паставіў свой подпіс пад імпічментам Лукашэнку, аднак у апошні момант яго адклікаў. 22 лістапада 2000 года кіраўнік дзяржавы ўвёў яго ў склад ЦВК. З 2006 года па 2015 год Лазавік знаходзіўся ў спісе асобаў, якім быў забаронены ўезд у Еўрасаюз.

А яшчэ Лазавік — прыклад таго, што вучыцца ніколі не позна. Ён нарадзіўся ў 1951 годзе, у 1972 годзе скончыў Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі, у 1993 годзе — БДУ, у 2000 годзе — Акадэмію кіравання пры прэзідэнце, у 2003 годзе (у 52 гады!) — аспірантуру пры Акадэміі кіравання.

Неяк падчас выбараў у Гродна журналістаў не пускалі ў памяшканне выбарчага ўчастку. «Мы зараз Лазавіку патэлефануем!» — пагражалі акулы пяра. «А хто такі Лазавік?» — шчыра здзівіўся сябра выбарчай камісіі. І вось зараз нават паскардзіцца не будзе каму.

## Дар'я Домрачава



**Беларуская біятланістка мае намер хутка аднавіцца пасля нараджэння дачкі і далучыцца да каманды ўжо ў сярэдзіне лістапада. Так кажа трэнер жаночай зборнай Беларусі па біятлоне Фёдар Свабода.**

Зараз каманда знаходзіцца на зборах у Цюмені. «Вяртаемся дадому 6 лістапада. Некалькі дзён самападрыхтоўкі — і адпраўленне на збор у нарвежскі Шушэн. Адтуль пераедзем у шведскі Эстэрсундзе, дзе з 27 лістапада пачнецца першы этап Кубка свету. У Шушэне плануе правесці свае першыя трэніроўкі на снезе Домрачава. Яна мяркуе працаваць, зразумела, па індывідуальнай праграме, але будзе знаходзіцца з камандай», — паведаміў Свабода.

Па ягоных словах, калі ён віншаваў Дар'ю з нараджэннем дачкі, тая нічога не сказала пра нейкія перамены. «Значыць, планы нязменныя. У тым ліку і тыя, згодна з якімі яна хоча ўжо пасля навагодніх святаў аднавіць выступы», — сказаў Свабода.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Рэвалюцыя, эвалюцыя, дэградацыя…




**Верыць у ліміт рэвалюцый — значыць выдаваць пажаданае за рэальнае.**

Чарговая парламенцкая кампанія, у поўнай адпаведнасці з пажаданнем адзінага палітыка (АП), «не парушыла мір і спакой у нашай краіне». Гэта галоўнае. А чаго яшчэ ад яе можна было чакаць? Дыскусій наконт сучаснай сітуацыі і будучыні краіны? Абмеркавання дзейнасці дэпутатаў пятага склікання? Вы гэта сур'ёзна? Вам тое трэба?

Паглядзіце, як дружна галасавалі беларусы! Яўка — 74,32%, і амаль кожны трэці аддаў свой голас датэрмінова! Расія са сваімі жалю вартымі 47,88% адпачывае. А яўка — упэўнены АП — «гэта паказчык сувязі паміж уладай і народам, паказчык ацэнкі людзьмі парламенцкіх выбараў, ролі дэпутатаў, парламента ў жыцці нашага грамадства і дзяржавы».

Такі вось парадокс. На думку высакалобых аналітыкаў, расійская Дума хоць і скача ўпрысядкі пад балалайку Крамля, аднак магчымасць думскіх дэпутатаў самастойна ініцыяваць распрацоўку і прыняцце законаў не ідзе ні ў якое параўнанне з магчымасцю нашых палатачнікаў. Такім чынам, на практыцы атрымліваецца адваротная залежнасць: чым вышэй роля парламента, тым ніжэй яўка.

Не выключана, што прычыну парадоксу варта шукаць у нізкім узроўні даверу расіян да вынікаў галасавання, якое ініцыюе тамтэйшы ЦВК. Напрыклад, вынікі вераснёўскіх выбараў паставіў пад сумнеў амаль кожны трэці. Такія дадзеныя «па гарачых слядах» апублікаваў «Левада-цэнтр». Сумнявацца ў прафесіяналізме і адсутнасці ангажаванасці адной з найстарэйшых сацыялагічных службаў Расіі не даводзіцца. Гэта ў нас так званыя «незалежныя сацыёлагі» малююць свае вынікі «на каленках», спрабуючы такім чынам парушыць мір і спакой у краіне. Адно радуе: гэткім штукарствам яны займаюцца за грошы не сваіх, а заакіянскіх падаткаплацельшчыкаў.

У Беларусі за два дзесяцігоддзі выпрацаваны прынцыпова іншы метад ацэнкі дакладнасці афіцыйных вынікаў галасавання. Ён надзвычай просты. Ацэнка дзейнасці ЦВК і падпарадкаваных ёй акруговых і ўчастковых камісій ускладзена на… старшыню ЦВК Лідзію Ярмошыну. Гэтым правам яна карыстаецца так актыўна, што, паводле ўласнага прызнання, стала «брэндам выбараў».

## «Чорная дзірка»

Выбары скончыліся, і эстафету спакою далей панясуць дэпутаты. АП упэўнены, што новы парламент прыступіць да працы «ціха» і будзе сядзець як… самі ведаеце, хто і дзе.

Жыццё, аднак, больш складанае за любыя ўяўленні пра яго. Цішыня зманлівая. «Выбары, — адзначае палітолаг Уладзімір Пастухоў, — гэта палітычная «чорная дзірка», якая вакол сябе здольная паскараць нармальнае цячэнне гістарычнага часу. Выбары, што адбыліся, хоць і не змянілі нічога па сутнасці ды не аказалі ніякага ўздзеяння на агульны кірунак руху, аднак прымусілі грамадства хутчэй крочыць да развязкі сучаснага гістарычнага сюжэту».

Пастухоў — расійскі палітолаг. Свае развагі ён ілюструе расійскімі прыкладамі. Самы яркі — кадравыя перастаноўкі ў вышэйшых эшалонах улады. Пад уздзеяннем «чорнай дзіркі» за апошнія некалькі тыдняў іх адбылося больш, чым за некалькі апошніх гадоў.

У Беларусі да кадравай чахарды справа не дайшла. Гэта не азначае, што АП задавальняе цяперашняе становішча спраў. Практычна штоквартальна ён палохае ўрад абяцаннем прыняць кадравыя рашэнні «пры адсутнасці станоўчай дынамікі і вынікаў». Але праходзіць квартал, паўгоддзе… Сёння можна смела сцвярджаць, што адсутнасць станоўчай дынамікі стала неад'емнай характарыстыкай беларускай стабільнасці.

І тым не менш, мінулыя выбары паказалі, што беларуская мадэль валодае значна большай жыццяздольнасцю, чым тое прынята лічыць у асяроддзі апанентаў. Няхай і са скрыпам, але шасцярні адаптацыйнага механізму рухаюцца. І вось ужо дэпутаты бундэстагу, якія пабывалі ў Мінску з трохдзённым візітам, распавядаюць у інтэрв'ю TUT.BY пра зняцце нефармальнай забароны на кантакты з беларускім парламентам.

Ва ўмовах падзення нафтавай рэнты і сціскання расійскага рынка Беларусь асуджаная на ўзмацненне заходняга знешнепалітычнага вектару, але без дадатковага імпульсу ад «чорнай дзіркі» дата зняцця нефармальнай забароны была б перанесеная на нявызначаны тэрмін.

Улада ў Беларусі, у адрозненне ад грамадства, з'яўляецца актыўным пачаткам, і таму, сутыкнуўшыся з чарговым выклікам, яна вымушана нешта рабіць — а значыць, не па сваёй волі правакаваць перамены. Гістарычны вопыт падказвае, што сярод родных бяроз і асін усе рэвалюцыі пачыналіся зверху, а іх лідарамі станавіліся перабежчыкі з кіруючага класа. Далёка не заўсёды яны потым утрымлівалі ўладу, але гэта ўжо іншае пытанне…

## Ліміт рэвалюцый

У доме вісельніка не прынята прыгадваць пра вяроўку. У палітычных сістэмах, якія зацыкліліся на падтрыманні статус-кво, — пра перамены. Усялякі намёк на неабходнасць якасных змяненняў расцэньваецца як заклік да бунту і рэвалюцыі. Свайму бліжэйшаму атачэнню АП нагадвае пра гэта ўвесь час. Абмяжуюся адным прыкладам, запазычаным з дакладу на V Усебеларускім народным сходзе: «Адразу хачу падкрэсліць: ніякай ломкі палітычнай сістэмы, што склалася ў нас, не будзе! Як я ўжо неаднаразова казаў, ліміт рэвалюцый і катастроф народ вычарпаў у мінулым стагоддзі. А цяпер ён хоча жыць у міры і дастатку, ствараючы, а не руйнуючы свой дабрабыт і дабрабыт сваёй маладой і суверэннай дзяржавы».

Ліміт рэвалюцый — гэта што такое? Кім і на падставе якіх крытэраў ён усталёўваецца? На падставе жадання беларускага народа жыць у міры і дастатку? Няўжо ў гісторыі вядомыя выпадкі, калі народы хацелі супрацьлеглага?

Мы не будзем выходзіць межы азбукавых ісцін і з дапамогай Вікіпедыі паспрабуем разабрацца са значэннем слова «рэвалюцыя». Яно паходзіць ад познелацінскага «revolutio» (паварот, пераварот, ператварэнне) і азначае радыкальнае, карэннае, якаснае змяненне ў развіцці грамадства, прыроды або працэсу пазнання.

Але чаму грамадства, якое дзесяцігоддзямі, а то і стагоддзямі знаходзіцца ў стане палітычнай апатыі, раптам радыкалізуецца? І ці заўсёды якаснае змяненне вядзе да развіцця?

Абыдзенае мысленне праводзіць паралель паміж рэвалюцыяй і паравым катлом, у якога сапсаваўся засцерагальны клапан. Адрозненне аўтарытарных рэжымаў ад дэмакратычных, мяркую, у тым і палягае, што ў апошніх з дапамогай выбараў клапан пастаянна падтрымліваецца ў працоўным стане. Таму сучасныя дэмакратычныя краіны рэвалюцыі не напаткаюць.

Гэта мадэль, на першы погляд, пераканаўчая. Аднак сярод родных бяроз і асін такая мадэль рэвалюцыі знізу ні разу не назіралася. Нашы рэвалюцыі заўсёды адбываліся не да падзення ўлады, а пасля, і з'яўляліся не прычынай падзення ўлады, а яе следствам.

«Рэвалюцыя, — тлумачыць аўтар кнігі «Вялікія рэвалюцыі ад Кромвеля да Пуціна», эканаміст Уладзімер Маў, — гэта ж не людзі з чырвонымі сцягамі. Рэвалюцыя — гэта сістэмная трансфармацыя пры слабай дзяржаве. Калі дзяржава знаходзіцца ў калапсе, калі дзяржавы па сутнасці няма, адбываецца трансфармацыя палітычных, эканамічных, сацыяльных інстытутаў. Гэта і ёсць рэвалюцыя».

«Улада літаральна валялася ў брудзе», — як тут ні прыгадаць геніяльнае вызначэнне рэвалюцыі, дадзенае ў свой час АП. Нам застаецца толькі паспрабаваць высветліць, чаму яна (улада) перыядычна аказваецца ў такім незайздросным становішчы.

## Першыя ластаўкі

Знаходзіць адказы на знешнія і ўнутраныя выклікі — задача палітычнай эліты («творчай меншасці», паводле класіка цывілізацыйнага аналізу Арнольда Тойнбі). Метадам спроб і памылак яшчэ ў часы першых Рурыкавічаў такі адказ быў знойдзены — гэта максімальная цэнтралізацыя ўсіх відаў рэсурсаў (у першую чаргу ўладных) у руках адзінага палітыка.

На працягу стагоддзяў ва ўмовах бязмежных лясных абшараў з нізкай шчыльнасцю насельніцтва жорсткая цэнтралізацыя паспяхова даказвала сваю эфектыўнасць адносна гарызантальных («сеткавых», як сказалі б сёння) формаў арганізацыі грамадства. Імперыя працягласцю ў дзевяць гадзінных паясоў наглядна сведчыць, што нашы продкі ішлі «правільнай дарогай».

Аднак перад выклікам Новага часу, выклікам прамысловай рэвалюцыі цэнтралізаваная сістэма пачала пасаваць. Сталінская індустрыялізацыя — апошні паспяховы праект, што ажыццяўляецца пад кіраўніцтвам адзінага палітыка. І за гэты поспех давялося заплаціць мільёнамі жыццяў.

Зноў звернемся па дапамогу да Уладзіміра Пастухова: «Гістарычнае значэнне савецкага досведу палягае ў тым, што з яго дапамогай эксперыментальна было ўстаноўлена: эканоміка манапалістычнага дзяржаўнага капіталізму (вядомая пад эўфемізмам — «сацыялізм») асуджаная на паразу ў спаборніцтве з эканомікай, у аснове якой ляжыць капіталістычная канкурэнцыя».

Палітычная эліта ўрокаў з паразы не зрабіла. Пад мантру пра «найбуйнейшую геапалітычную катастрофу XX стагоддзя» яна падняла ўладу з бруду ды вярнула посткамуністычную Беларусь у манапалістычны дзяржаўны капіталізм — і зрабіла тым самым будучы сістэмны крызіс непазбежным.

Тое, што мы назіраем сёння, — гэта толькі першыя ластаўкі. Спробы пераадолець крызіс за кошт удасканалення «таго шляху, які выбралі і па якім досыць паспяхова прайшлі першыя два этапы аднаўлення і стабілізацыі», асуджаныя на правал. «Той шлях» — гэта шлях састарэлай культуры Рурыкавічаў. Ад яе нельга перайсці да чагосьці новага без рэвалюцыйнага скачка.

Аднак рэвалюцыйныя скачкі не абавязкова здзяйсняюцца ў будучыню. Для таго, каб у гэтым пераканацца, дастаткова прыгадаць 1994 год, які стаўся бунтам архаікі, нацэленым на аднаўленне звыклай цэнтралізаванай дзяржавы.

Не варта забываць і пра тое, што ва ўмовах культурнай спадчыны Рурыкавічаў альтэрнатывай рэвалюцыі сёння з'яўляецца не эвалюцыя, а дэградацыя.

# «Беларусаў могуць выкарыстаць як гарматнае мяса»

Алесь КІРКЕВІЧ

**Матэрыялы рэдактара беларускага аддзела «Informnapalm» Дзяніса Івашына, прысвечаныя расійскай пагрозе ў Беларусі, чытаюць і перадрукоўваюць як у нас, так і за мяжой. Чытачам «Новага Часу» Дзяніс распавёў пра верагодныя сцэнары расійскай агрэсіі і неабходныя крокі, каб зберагчы незалежнасць. А таксама пра свой шлях да такой незвычайнай працы — легальнай выведкі, заснаванай на працы са СМІ, сацыяльнымі сеткамі ды іншымі адкрытымі крыніцамі.**



### «Прысягу прымаў пад бел-чырвона-белым сцягам»

***— Чаму табе наогул блізкая гэтая тэма — Расія і яе пагрозы для Беларусі?***

— Я ўжо даўно ў шэрагах нацыянальнага руху. У 1997 годзе даваў маладафронтаўскую прысягу ў Свіслачы пад бел-чырвона-белым сцягам. Пасля быў у БНФ. Заўжды імкнуўся ўдзельнічаць у вулічных акцыях у Мінску ды Гродна. Пасля ж усё сышло на маргінэс… Я ўжо не бачыў сэнсу, адышоў.

Але быў Майдан на Украіне, які заахвоціў не толькі ўкраінцаў — і беларусаў таксама. Там я пазнаёміўся з Міхаілам Жызнеўскім, якога лічу пабрацімам… Наўпрост тэма пагрозаў незалежнасці, пра якую шмат казалі ў 1990-я гады, актуалізавалася.

***— Як ты далучыўся да працы «Informnapalm»?***

— Калі ў 2014 годзе адбывалася анексія Крыму, журналіст з Севастопалю Раман Бурко пачаў падаваць інфармацыю пра захопы вайсковых частках. Пасля ён пераехаў з акупаванага паўвострава і працягнуў дзейнасць у кантынентальнай Украіне. Так і нарадзіўся «Informnapalm» — валанцёрскі рух, які асвятляе расійскую агрэсію ва Украіне і дзейнасць расійскіх спецслужб. Да праекту далучыўся Іраклі Камахідзэ, удзельнік расійска-грузінскай вайны 2008 года, якому ўсё гэта было блізка. Праект стаў міжнародным.

У першай палове 2014-га далучыўся і я. Спачатку займаўся распаўсюдам матэрыялаў сайту. А ў 2015 годзе пачаў пісаць уласныя артыкулы, рабіць расследаванні.

### «Адзін з рэдактараў «Лайф Ньюс» назваў мяне агентам»

***— Нядобразычліўцы на розных расійскіх сайтах вінавацяць цябе ледзьве не ў датычнасці да спецслужбаў. Маўляў, чалавек без спецыяльнай адукацыі не можа так пісаць…***

— Тут варта спытаць у маіх нядобразычліўцаў, адкуль яны гэта ўзялі (смяецца). Я маю эканамічную адукацыю, вывучаў паліталогію ў ЕГУ. Калі пра мяне пішуць «…як мінімум валодае вайсковым апаратыўна-тактычным узроўнем ведаў» — я гэта ўспрымаю як кампліment, бо ніколі не быў у вайсковых вучэльнях.

Зараз ёсць інтэрнэт, а я вельмі шмат чытаю аналітыкі, найперш вайсковай. Вось і набраўся досведу. Калі я гэтым займаюся — павінен быць спецыялістам.

***— «Informnapalm» бярэ інфармацыю з адкрытых крыніц, то бок легальна. Але ўсё ж такі, ты не баішся абвінавачвання ў шпіянажы?***

— Цікава, што зусім нядаўна Вячаслаў Раўжын, адзін з рэдактараў «Лайф Ньюс» і каардынатар Антымайдану, назваў мяне агентам… Да пагрозаў стаўлюся адэкватна, я ж дарослы чалавек. Я ведаю, што не раблю нічога супрацьзаконнага. Наконт адчуванняў… А як сябе адчувае вайсковец у акопе? Можа трапіць снарад, а можа не трапіць. Але я буду працягваць працу, нягледзячы ні на што. Чым больш яны ўсё гэта пішуць, тым больш я разумею, што раблю слушна.

### «Для Расіі Беларусь — вайсковы плацдарм»

***— Як ты сёння ацэньваеш пагрозу для Беларусі з боку Расіі?***

— Расія заявіла пра рэстаўрацыю сваёй імперскай палітыкі яшчэ ў 2007-м. Тады Пуцін выступіў з адпаведнай прамовай у Мюнхене. Тады ж на гэтай ніве актывізавалася і Руская праваслаўная царква — Алексій ІІ падтрымаў прэзідэнта. Ужо ў 2008 годзе Расія акупавала Паўднёвую Асецію, пачаўшы вайну з Грузіяй. Сусветная супольнасць гэта праглынула, вынікам чаго сталі падзеі ва Украіне ў 2014 годзе.

Зараз мы бачым стварэнне выразнай наступальнай лініі з моцным патэнцыялам, пачынаючы ад Новачаркаску, далей Кадамаўскі палігон (Растоўская вобласць), Багучар (Варонежская вобласць), Валуйкі (Белгарадская вобласць), Клінцы (Бранская вобласць), Ельня (Смаленская вобласць). Ад Ельні 200 кіламетраў да Віцебска і Магілёва. Недзе базы ўжо былі, недзе — ствараюцца наноў або аднаўляюцца на месцы расфармаваных.

Але ў Расіі зараз не стаіць задача ваяваць з Беларуссю, гэта трызненне. Ніхто вайсковымі





калонамі да нас уваходзіць не будзе, танкавыя баталіі, баі ў гарадах… гэта лухта. У Расіі зусім іншая задача.

***— Якая?***

— Беларусь Расія разглядае выключна як вайсковы плацдарм ды хоча выкарыстаць беларускі корпус арміі для сваіх мэтаў. Навошта яе акупаваць? Канешне, Лукашэнка можа паспрабаваць «адгарадзіцца» ад Усходу і пайсці на рэальныя крокі… Але іх няма. Статус-кво, што кіраўнік Беларусі стварыў за 20 гадоў, захоўваецца.

Патэнцыйныя агенты ўплыву ў вышэйшым вайскова-палітычным кіраўніцтве застаюцца на сваіх месцах. Вайсковая дактрына, як і раней, прадугледжвае шчыльны саюз з Расіяй. У нас жа адзіная рэгіянальная групоўка войскаў, адзіная сістэма супрацьпаветранай абароны… Не кажучы нават пра АДКБ.

18–20 кастрычніка пад Брэстам прайшлі сумесныя беларуска-расійскія вышкалы паветрана-дэсантных падраздзяленняў. Дывізія, якая будзе «вучыцца» з расійскага боку, дарэчы, прымала ўдзел у агрэсіі супраць Украіны…

### «Базы ў Беларусі, каб «браць» Цэнтральную і Заходнюю Украіну»

***— А калі Лукашэнка ўсё ж пойдзе на ўмацаванне нацыянальнай бяспекі?***

— Калі Лукашэнка адмовіцца даваць тэрыторыю краіны пад плацдарм, Расія можа запусціць некалькі сцэнараў. Гэта можа быць і «гібрыдны сцэнар», падобны да сцэнару Стралкова з захопамі адміністрацыйных будынкаў і вайсковых частак на Данбасе, каб разгайдаць сітуацыю ва Усходняй Беларусі. Ніхто фактычна ў нас у краіне пра гэта зараз не кажа, хоць падобныя рэчы могуць пачацца ўжо праз год.

***— Навошта Расіі гэтыя плацдарм?***

— Найперш, каб кантраляваць Калінінградскі калідор. У Калінінградскую вобласць, дарэчы, ужо перакінутыя «Іскандэры», пачынаецца мілітарнае накачванне рэгіёну. Зразумела, сілы NATO будуць змушаныя ўзмацняць свае пазіцыі ў рэгіёне. Расія зноў пачне перакідваць, маўляў, «у адказ»…

Урэшце паўстане пытанне аб размяшчэнні вайсковых падраздзяленняў РФ на мяжы з Польшчай і Літвой з беларускага боку. Зноў жа, калі вайна з Украінай пяройдзе ў больш актыўную фазу, Крамлю таксама спатрэбіцца беларуская тэрыторыя для размяшчэння мотастралковых і танкавых падраздзяленняў на паўднёвых межах. Гэта неабходна, каб «браць» Заходнюю і Цэнтральную Украіну.

### «Ад ледасеку да палонію — сродкаў вельмі шмат»

***— Але ж Лукашэнку гэта нявыгадна…***

— Вось тады Расія і паспрабуе задзейнічаць «гібрыдны сцэнар». Ва Усходнюю Беларусь, прыкладам, будуць закінутыя падраздзяленні ГРУ, каб паўтарыць «рускую вясну» 2014-га ў Крыму і на Данбасе. Насельніцтва ж за 20 гадоў прарасійскай прапаганды цалкам «замбаванае» і падрыхтаванае… Верагодна, што вайсковыя часткі будуць наўпрост пераходзіць на расійскі бок.

***— Але ж беларускі Цэнтр спецыяльных аперацый, створаны не так даўно, акурат і арыентаваны на падобныя выклікі?***

— У той самы час яны прымаюць удзел у супольных з расійскімі вышкалах. Тое, што гэты Цэнтр спецыяльных аперацый створаны для супрацьдзеяння «данецкаму сцэнару», — гэта толькі наша версія, у якую нам хочацца верыць.

Лукашэнку могуць і па-іншаму адхіліць ад улады. Ад ледасеку да палонію — сродкаў вельмі шмат. Гісторыя з самалётам Качынскага, не забывайце, была таксама не так даўно. Калі ён пойдзе насуперак Расіі — такія сцэнары вельмі верагодныя. Таму і ён, і ўсе беларусы зараз — закладнікі сітуацыі, збудаванай за 20 гадоў карыстання таннымі энерганосьбітамі і збыту сваёй нерэнтабельнай прадукцыі ўсходняму суседу.

Толькі ў гэтым годзе колькасць сумесных вучэнняў павялічылася на траціну! Іх за год было 38… Усё кажа пакуль пра тое, што ў выпадку кантынентальнай вайны, якую, не дай Божа, можа развязаць Пуцін, беларускі корпус арміі будзе заангажаваны на баку Расіі. Беларусаў выкарыстаюць як гарматнае мяса.

### «Калі краіна будзе кансалідаванай — Пуцін не адважыцца»

***— Ці існуе ў дадзенай сітуацыі хоць нейкі аптымістычны сцэнар?***

— Ёсць, але толькі адзін. У выпадку, калі прабеларускія сілавікі ды наменклатура, а яны дакладна ёсць, пачнуць на месцах рабіць усё для ўзмацнення нацыянальнай бяспекі краіны.

***— Але, паводле тваёй логікі, у такім выпадку Лукашэнку наўпрост заменяць…***

— Лукашэнка можа пабачыць ініцыятыву і рэальную падтрымку курсу на незалежнасць на месцах і стане больш упэўнены ў сваіх кроках на аддаленне ад Расіі. Калі краіна будзе кансалідаванай, і Пуцін гэта пабачыць, тады, магчыма, і не адважыцца.

Трэба перакрываць трансляцыю расійскіх тэлеканалаў. Трэба нарэшце ўводзіць памежны кантроль з нашага боку на беларуска-расійскай мяжы. Трэба трымаць баяздольныя падраздзяленні на мяжы з Расіяй, а не там, дзе яны зараз, — на мяжы з Польшчай і Літвой. Ну і кадры, канешне, то бок замена патэнцыйных агентаў уплыву ў сілавым блоку на беларусаў, выпускнікоў беларускіх вайсковых вучэльняў.

***— Ці не ёсць гэта заклікам да нацыянальна-арыентаванай супольнасці падтрымаць Лукашэнку?***

— Добрае пытанне, але пытанне больш да яго самога. Пакуль мы, на жаль, бачым вакол толькі інерцыю. З такім поспехам тут усё можа так цягнуць яшчэ 10 гадоў, але ў нас няма часу… Прабеларускі кіраўнік, які кансалідуе нацыю перад выклікамі, якія хутка паўстануць, павінен быць ужо зараз.

Калі ж працягнецца «шматвектарны» дрэйф, які мы бачым, усё скончыцца вельмі сумна: і для яго, і для нас. Зараз яшчэ ёсць час. Праз год яго можа не быць.



**Дастаўка кітайскіх тавараў у Еўропу па моры абыходзіцца дарага, а ў выпадку абвастрэння адносін з ЗША можа наогул стаць немагчымай. І тут з'яўляецца «Новы Шаўковы шлях», што забяспечыць транзіт кітайскіх тавараў на захад па сушы**

# Пекін, Ісламабад і беларускія схемы

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Якая сувязь паміж канфліктам у Паўднёва-Кітайскім моры і візітам Аляксандра Лукашэнкі ў Пекін? Што сабой уяўляе «Новы Шаўковы шлях»? Чаму кіраўнік Беларусі адразу пасля Кітая адправіўся ў Пакістан? На самай справе, адказы на ўсе гэтыя пытанні звязаныя паміж сабой.**




### «Новы Шаўковы шлях» як спосаб зарабіць

Міністр замежных спраў Уладзімір Макей у Варшаве зрабіў нечаканую прапанову свайму польскаму калегу Вітальду Вашчыкоўскаму: далучыцца да рэалізацыі глабальнага праекта «Новы Шаўковы шлях», які прасоўвае Кітай і на якім імкнецца зарабіць Беларусь. А Мінск, маўляў, дапаможа палякам — пралабіруе іх інтарэсы ў Пекіне.

Паездка Лукашэнкі ў Кітай таксама суправаджалася шматлікімі расповедамі афіцыйных асоб рознага калібру пра тое, колькі разнастайных выгод Беларусь атрымае ад удзелу ў «Новым Шаўковым шляху». Літаральна кожны заяўляў, што Беларусь у праекце еўразійскага транспартнага калідора — ключавы гулец, бо непасрэдна злучае ЕАЭС і Еўрапейскі саюз. А значыць, залаты дождж на нашу краіну пральецца ўжо ледзь не заўтра, засталося толькі крышачку пачакаць.

Пры гэтым усе неяк сарамліва замоўчвалі, што тады прамысловы парк «Вялікі камень», які пафасна прызначаны быць аазісам найвышэйшых прамысловых тэхналогій, хутка ператворыцца ў просты (хоць і вельмі буйны) афшорны склад для кітайскіх тавараў на мяжы з Еўропай. У такім выглядзе ён кітайцам сапраўды патрэбны. А будаваць высокатэхналагічныя вытворчасці ў інтарэсах беларусаў — навошта гэта кітайцам?

Адкуль наогул паходзіць ідэя стварыць «Новы Шаўковы шлях»? Традыцыйна грузавыя плыні паміж Еўропай і Азіяй ідуць морам. Але адначасова расце попыт і на новыя транзітныя рашэнні — сухапутны транспарт. Самыя розныя аналітыкі слушна заўважаюць, што гэты праект — вынік нарастання напругі ў кітайска-амерыканскіх адносінах. У 2014 годзе па аб'ёме ВУП Кітай стаў другой эканомікай свету. Каб захаваць сусветнае лідарства, ЗША пачалі вяртаць «на радзіму» прамысловыя вытворчасці, раней перанесеныя ў Кітай (пры гэтым сабекошт тавараў не расце дзякуючы шырокаму ўжыванню робатаў і мексіканцаў). А калі значная частка амерыканскіх кампаній закрые свае вытворчасці ў Кітаі, ЗША пачне ствараць праблемы для кітайскіх тавараў на шляху ў сваю краіну.

ЗША ўжо цяпер ціснуць на Кітай праз падтрымку яго супернікаў у рэгіёне. І асабліва ў Паўднёва-Кітайскім моры, дзе ў Кітая тэрытарыяльны канфлікт абсалютна з усімі краінамі, але найперш — з В'етнамам. Менавіта праз Паўднёва-Кітайскае мора праходзіць суднаходны шлях, па якім перавозіцца 70 працэнтаў кітайскага таварнага экспарту ў большасць краін свету, і перш за ўсё — у Еўропу, другі па велічыні рынак для кітайскіх тавараў.

Атрымліваецца, што дастаўка кітайскіх тавараў у Еўропу па моры і так абыходзіцца дарага, а ў выпадку абвастрэння адносін з ЗША можа наогул стаць немагчымай. І вось тут з'яўляецца «Новы шаўковы шлях», што забяспечыць досыць танны транзіт кітайскіх тавараў на захад па сушы.

Саму ідэю рэанімаваць старажытны «Шаўковы шлях» упершыню агучыў у 2013 годзе старшыня КНР Сі Цзіньпін. Кітай ад самага пачатку вырашыў не разменьвацца на дробязі — і стварыць адну з самых маштабных інфраструктурных сетак у свеце, ад Ціхага акіяна да Балтыйскага мора, адзіны калідор для прамых паставак тавараў з Усходу на Захад. Для рэалізацыі праекту ў Кітаі заснавалі «Фонд Шаўковага шляху» з бюджэтам у $40 мільярдаў. Праект прадугледжвае стварэнне некалькіх сотняў інфраструктурных аб'ектаў эканамічнага пояса «Шаўковага шляху»: лагістычных хабаў, чыгунак, аўтатрас і індустрыяльных паркаў.

«Беларусь — гэта лагістычнае перакрыжаванне. Мы знаходзімся на ключавых транспартных маршрутах, якія злучаюць Заходнюю Еўропу з Усходам, Чарнаморскае ўзбярэжжа з краінамі Балтыйскага мора, — кажа намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта па эканоміцы Мікалай Снапкоў. — Сёння на тэрыторыі Кітайска-беларускага індустрыяльнага парка «Вялікі камень» ідзе актыўнае стварэнне «сухога порта» і комплекснага лагістычнага цэнтра. Ідавочныя дзве вузлавыя пляцоўкі эканамічнага пояса Шаўковага шляху: акруга Урумчы ў Сіньцзян-Уйгурскім аўтаномным раёне КНР і Беларусь».

Мінск выдатна разумее, што на маршруце «Новага Шаўковага шляху» Беларусь апынулася ў ролі гарляка бутэлькі — самага вузкага месца, якое злучае Еўразійскі Саюз з Еўрапейскім саюзам. Украіну Кітай як краіну-транзіцёра не разглядае з-за ідучай там вайны. А ў Беларусі — стабільнасць, і Пекіну абыякава, што хаваецца за гэтай стабільнасцю: ён сам не лепшы.

Так што зараз Лукашэнка папросту прадае свой «гарляк бутэлькі», ствараючы анклаў кітайскай эканомікі ва Усходняй Еўропе. Гэта, апроч іншага, стала чыннікам палітычнага пацяплення ў адносінах паміж Мінскам і Брусэлем: цяпер Беларусь як бы дэмакратызуецца, дзякуючы чаму ЕС зняў з краіны эканамічныя санкцыі. Самой Беларусі прадаваць у Еўропу асабліва няма чаго, а вось кітайцы магчымасць гандляваць праз Беларусь выкарыстаюць напоўніцу.

Па некаторых ацэнках, калі «Шаўковы шлях» сапраўды пачне працаваць, праз Беларусь можа пайсці каля 10 працэнтаў таваразвароту паміж ЕС і КНР. Гэта велізарная лічба: сёння таваразварот Кітай—ЕС складае каля 600 мільярдаў долараў, гэта значыць, праз Беларусь пойдзе транзіт на 60 мільярдаў долараў. І далей таваразварот яшчэ будзе расці.

Таму Кітай укладае грошы ўжо сёння. Толькі на стварэнне інфраструктуры першай чаргі «Вялікага каменя» Кітай вылучыў больш за 100 мільёнаў долараў. У 2017-м гэтая інфраструктура будзе дабудаваная, і тады ў парк павінны пайсці новыя інвестыцыі. Так, найбуйнейшая лагістычная кампанія Кітая «China Merchants» плануе інвеставаць у лагістычны цэнтр да 2020 года больш за 500 мільёнаў долараў. І ўжо цяпер яна поўным ходам вядзе будаўніцтва ўласнай інфраструктуры, хаця агульная інфраструктура парка яшчэ не пабудаваная.

### Роля і месца Пакістану

Кітай разлічвае, што «Шаўковы шлях» прывяжа суседнія краіны да Кітаю, што дасць перавагу ў дужанні з галоўным геапалітычным супернікам у рэгіёне — Індыяй. А зараз успомнім, што пасля сустрэчы з Сі Цзіньпінам Аляксандр Лукашэнка адразу накіраваўся ў Пакістан. Тое ж самае было паўтары гады таму: у маі 2015-га Сі Цзіньпін наведаў Мінск, кіраўнік Беларусі атрымаў пачак крэдытаў і наўпроставых фінансавых уліванняў — і адразу паляцеў у Ісламабад.

Пакістан — ні ў якой ступені не канкурэнт Кітаю. Але ён — яго геапалітычны саюзнік у Азіі, найперш як магутны фактар, які стрымлівае Індыю. Насельніцтва Індыі сёння расце нашмат хутчэй, чым насельніцтва Кітая; колькасць іх жыхароў зраўняецца ў 2020 годзе. Індыя меншая па плошчы, але мае лепшае геаграфічнае становішча — напрыклад, у яе амаль няма супернікаў у Індыйскім акіяне. А вось марскія амбіцыі Кітая моцна абмежаваныя не вельмі прыязнымі да яго краінамі Паўднёва-Усходняй Азіі. Да таго ж Індыя мае асаблівую ласку як амерыканскіх, так і еўрапейскіх палітычных і бізнес-эліт, якія не сурпаць падтрымаць галоўнага суперніка Кітая ў рэгіёне.

Прычым тут Беларусь? Сам Лукашэнка падчас візіту ў Пакістан сказаў вельмі выразна і ў дадзеным выпадку праўдзіва: «Рост вашай эканомікі, павелічэнне яе магчымасцяў па замежным укладанні капіталаў, ствараюць спрыяльныя перадумовы для таго, каб Беларусь стала для Пакістана інвестыцыйным акном у Еўропу». На самай справе, гістарычна так склалася, што ў Еўропе (за выключэннем Вялікабрытаніі) Пакістан не вельмі любяць — яго справядліва ўспрымаюць як агрэсіўную краіну і крыніцу ісламскага фундаменталізму. Ну а пра стаўленне еўрапейскіх эліт да Індыі ўжо сказана.

Так вымалёўваецца яшчэ адна схема: Беларусі прыходзіцца адпрацоўваць кітайскае фінансаванне не толькі прадстаўленнем сваёй тэрыторыі пад перавалку кітайскага ширспажыву. А яшчэ і становячыся апорнай кропкай ва Усходняй Еўропе для палітычнага пратэжэ Кітая — Пакістана. Ну і прасоўваючы інтарэсы «шляху» далей на Захад — хаця б у Польшчу.

Беларусь Эканамічная

Выпуск №5 (кастрычнік)

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by

2 УЗЛЁТЫ І ПАДЗЕННІ ФЕРМЕРА ВАДЗІМА ЛЕВАНА

3 РЭДКАЯ ПТУШКА – БЕЛАРУСКІ ФЕРМЕР



# Ніякіх стымулаў для развіцця

Аляксей ХАРКЕВІЧ

**Мільярды грошай штогод у літаральным сэнсе закопваюцца ў зямлю, замест рэнтабельнага прадукту мы атрымліваем рост запазычанасці сельгаспрадпрыемстваў і павелічэнне коштаў на прадукты харчавання. Што з сябе ўяўляе сённяшняя сельская гаспадарка?**

Задачы, якія вырашаюцца сельскай гаспадаркай, уладамі тлумачацца не менш як праблемы забеспячэння харчовай бяспекі краіны. Таму не дзіўна, што расходы кансалідаванага бюджэту на падтрымку сельскай гаспадаркі супастаўныя з сукупным выдаткамі на нацыянальную абарону, судовую, праваахоўную дзейнасць і забеспячэнне бяспекі.

Тым не менш, крызіс у беларускай эканоміцы вымушае скарачаць аб'ёмы фінансавання нават гэтай, здавалася б, недатыкальнай галіны эканомікі.

## Грошы ідуць банкам

Аднак нягледзячы на скарачэнне долі расходаў дзяржаўнага бюджэту на падтрымку сельскай гаспадаркі, сума дзяржаўнай падтрымкі ўсё роўна працягвае ўражваць. Так, у 2015 годзе расходы кансалідаванага бюджэту на сельскую гаспадарку і рыбагаспадарчую дзейнасць склалі 18 365,1 мільярда недэнамінаваных рублёў, што па сярэднегадавым курсе Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь эквівалентна 1,16 мільярда долараў.

Для разумення маштабаў фінансавання адзначым, што памер дзяржаўнай падтрымкі ў 2015 годзе складаў больш за 22% сабекошту рэалізаванай сельгасвытворцамі прадукцыі. А пяццю гадамі раней сума бюджэтнага фінансавання даходзіла і наогул да 36% сабекошту сельгаспрадукцыі.

Тым не менш, меркаванне пра тое, што беларускія сельскагаспадарчыя арганізацыі купаюцца ў грошах, з'яўляецца глыбокай памылкай. Бо канчатковы атрымальнік асноўнай часткі бюджэтных сродкаў, што выдзяляюцца на падтрымку сельскай гаспадаркі, — зусім не сельскагаспадарчыя арганізацыі, а беларускія банкі. Дзяржаўная падтрымка ж палягае ў кампенсацыі працэнтаў па банкаўскіх крэдытах, якія выдаюцца сельскагаспадарчым арганізацыям.

Таму, інвестуючы ў перспектыўнае развіццё, сельскагаспадарчыя арганізацыі вымушаныя спадзявацца ў асноўным на ўласныя сродкі.

Доля бюджэту ў фінансаванні асноўных сродкаў сельскагаспадарчых арганізацый у 2015 годзе склала толькі 5,7%. Прычым апошнія пяць гадоў гэты паказчык не перавышаў 9%.

Пасля 2013 года назіраецца істотнае скарачэнне інвестыцый у асноўны капітал з усіх знешніх крыніц фінансавання. У выніку інвестыцыі ў асноўны капітал сельскагаспадарчых арганізацый за два апошнія гады скараціліся з 3,1 мільярда долараў да 1,3 мільярда. І гэта выклікае пэўную трывогу, паколькі ў выніку скарачэння знешняга фінансавання каэфіцыент абнаўлення асноўных сродкаў сельскагаспадарчых арганізацый з 2012 года скараціўся амаль у паўтара разы.

У сувязі са скарачэннем прытоку інвестыцый доля ўласных сродкаў у фінансаванні інвестыцый у асноўны капітал за апошнія пяць гадоў вырасла з 41% да 70%.

## Эфектыўнасць нізкая

Створаная сістэма дзяржаўнай падтрымкі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў у апошнія гады не прыносіць чаканага выніку. І, у першую чаргу, гэта выяўляецца ў зніжэнні паказчыкаў эфектыўнасці работы сельскай гаспадаркі краіны.

Нягледзячы на тое, што дзяржаўная падтрымка сельскагаспадарчых арганізацый прадугледжвае кампенсацыю працэнтаў па крэдытах банкаў, удзельная вага пратэрмінаванай крэдыторскай запазычанасці вырасла з 17,9% да 29,2%. Рэнтабельнасць продажаў знізілася да мінімуму. У 2015 годзе яе значэнне склала толькі 1,1%. Удзельная вага стратных арганізацый з кожным годам узрастае і дасягнула ўжо 22%, што адпавядае паказчыкам 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Прычым за апошні год доля стратных арганізацый вырасла ў два разы.

Нізкія паказчыкі эфектыўнасці дзейнасці сельскагаспадарчых арганізацый можна было б спісаць на агульны стан беларускай эканомікі, калі б не дынаміка паказчыкаў ураджайнасці ў раслінаводстве.

## Ураджайнасць у застоі, эксперт скарачаецца

Ураджайнасць сельскагаспадарчых культур у значнай ступені залежыць ад умоў надвор'я, таму для аб'ектыўнасці параўнанне праведзена на аснове сярэдніх дадзеных за трохгадовы перыяд.

З атрыманых дадзеных відаць, што павелічэнне ўраджайнасці адбылося толькі па збожжавых, зернебабовых культурах і рапсу. Максімальныя паказчыкі ўраджайнасці па большасці культур былі дасягнуты 5–7 гадоў таму, і тэхналагічнага прарыву тут у бліжэйшыя гады чакаць не варта.

Працяг на стар. 8 (2) »



# Узлёты і падзенні фермера

Алесь ЧАРНЯК

**Цяпер Вадзім Леван юрыдычна не фермер, бо тры гады таму, калі па Беларусі пракацілася эпідэмія афрыканскай чумы свіней (АЧС), яго свінак у прафілактычных мэтах загадалі зарэзаць. З таго часу яго выкупленая ў калгаса ферма на 500 галоў прастойвае, а Вадзім пачаў разводзіць кароў і авечак на правах «самазанятасці на вёсцы».**



Ўадрозненне ад «калгасаў» (юрыдычна яны пераўтвораны ў сельскагаспадарчыя вытворчыя кааператывы (СВК) або акцыянерныя таварыствы), фермеры не могуць сабе дазволіць стратнасць. Вось і Белстат сведчыць, што сярэдняя рэнтабельнасць беларускіх фермераў трымаецца на 17–18%, у той час як у дзяржаўным АПК летась яна склала 1,1%. Пры гэтым фермеры маюць у распараджэнні горшую зямлю (урадлівасць 24–25 балаў, у той час як у СВК яна пачынаецца з 30 балаў), ім ніхто не дае грошай бюджэту і не спісвае запазычанасці па крэдытах.

Тых, хто ў неспрыяльных умовах абралі лёс фермераў, у Беларусі не вельмі шмат — 3320 чалавек. Па стане на 2015 год яны зарэгістравалі 3017 сялянскіх фермерскіх гаспадарак і стварылі 5880 працоўных месцаў для наёмных работнікаў. Разам яны складаюць не больш за 3% ад усіх беларусаў, занятых у сельскай гаспадарцы.

Наш герой Вадзім Леван трапіў у фермеры па волі лёсу. Прыйшоў з войска, працы па сваёй спецыяльнасці хіміка не знайшоў, ужо меў жонку і не было жадання ездзіць на заробкі ў Расію. «Давялося лезці ў гаспадарку, сам я родам з вёскі», — кажа Вадзім.

Ён пачаў са свінаводства. «У Беларусі, калі ты трымаеш да 200 галоў ската, і гэта не перашкаджае суседзям, то табе не забаронена іх трымаць без афармлення нейкіх папер. Я вось адразу ў вёсцы на сваім падвор'і трымаў да 100 галоў свіней — паўтара года мусіць, пакуль суседзі мае не пачалі скардзіцца, што ім смярдзіць, што шуміць...»

Тады Вадзім набыў спачатку домік наводшыбе — фактычна хутар, зарэгістраваў фермерскую гаспадарку, пачаў наймаць людзей, і нават выкупіў у калгаса ферму на 500 галоў.

«Пачынаў паціху. Браў 30 свіней, потым 50, потым 200 — нарастала з кожнага продажу, грошы не траціў, а ўкладваў, укладваў, укладваў», — успамінае Вадзім.

Потым у 2013 годзе здарылася АЧС. Паводле афіцыйных дадзеных Мінсельгасхарчу Беларусі, тады ў сялян забралі 10 тысяч свіней і выплацілі кампенсацыю ў агульным аб'ёме больш за 20 мільярдаў недэнамінаваных рублёў. Але вось Вадзім кажа, што кампенсацыі не атрымаў, а 200 свіней у яго забралі. «Яны гаварылі: «Ты 9855-ты ў чарзе, табе трэба будзе пачакаць». Потым прыязджаеш, табе ўжо гавораць: «Ты ўжо 8925-ты». І вось так чакаем-чакаем-чакаем, а яны кажуць: «Хочаш, дадзім зараз пару капеек, ці чакай далей».

Цяпер Вадзім больш не мае зарэгістраванай фермерскай гаспадаркі і вярнуўся да статусу «самазанятасць на зямлі» — гэта калі селянін можа працаваць на сваім лапіку зямлі або гадаваць скаціну.

**Захаванне калгаснай сістэмы — гэта прыхаванае прыгоннае права, якое дазваляе нашаму сённяшняму рэжыму не баяцца хваляванняў народа**

«Я маю права або сам піць сваё малако, або здаваць у калгас — усё, больш нічога не маю», — тлумачыць Вадзім.

Але на форуме фермераў fermer.by пішуць, што правоў ён мае крыху болей — для продажу на рынку прадукцыі кожны селянін можа ўзяць у сельсавеце даведку пра наяўнасць асабістай падсобнай гаспадаркі і аплаціць месца.

«Ферма пустая стаіць. Яна вельмі вялікая — 1,5 тысячы квадратаў, туды трэба запускаць як мінімум 500 галоў, каб яны зімой не памерзлі. Яна пасля гэтай чумы стаіць пустая, у мяне і хлявоў многа — на 200 галоў пабудаваў, таму трымаю каля дома 30 кароў, 20 быкоў і пад сотню авечак», — акрэсліў Вадзім цяперашні стан рэчаў.

Улады завяршылі кампанію па зачыстцы асабістых сялянскіх падвор'яў ад свіней у буферных зонах каля дзяржаўных буйнатаварных фермаў, адстралялі дзікоў у лясах і цяпер зноў не забараняюць сялянам трымаць свіней. Аднак Вадзім кажа, што вяртацца да свінаводства не збіраецца, бо змянілася кан'юнктура (карма падаражалі, а свініна — не асаблівая), і нават

# Ніякіх стымулаў для развіцця

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 7 (1)

Такая сітуацыя характэрная не толькі для раслінаводства. У апошнія гады застой назіраецца нават у раней актыўна прагрэсуючай жывёлагадоўлі: максімальныя аб'ёмы рэалізацыі жывёлы, птушкі і яек былі дасягнуты ў 2013 годзе, а дынаміка надою малака перайшла ад пастаяннага росту да вагальнага руху.

Яшчэ адна глыбінная праблема рынку сельскагаспадарчай прадукцыі заключаецца ў паступовым скарачэнні колькасці падсобных гаспадарак насельніцтва. У выніку, калі ў 2010 годзе насельніцтвам Беларусі здавалася 6804,4 тыс. тон бульбы і 1891,5 тыс. тон агародніны, то ў 2015 годзе ўжо толькі 4758,2 тыс. тон і 1168,3 тыс. тон адпаведна — гэта значыць прыкладна на трацінну менш.

У сувязі з гэтым зусім не дзіўна, што ўпершыню з пачатку стагоддзя беларускі экспарт сельскагаспадарчых прадуктаў амаль зраўняўся з імпартам.

За апошнія два гады экспарт беларускай сельскагаспадарчай прадукцыі скараціўся на 23% і апусціўся ніжэй за ўзровень 2012 года. Калі тэндэнцыя працягнецца і далей, то ўжо па выніках гэтага года Беларусь будзе мець адмоўны знешнегандлёвы баланс па сельскагаспадарчай прадукцыі. Гэта можа азначаць толькі адно: дзяржаўная праграма забеспячэння харчовай бяспекі краіны з трэскам праваліласяя.

## Дзяржава ці фермер?

І ў сувязі з гэтым надзвычай паказальна параўнанне эфектыўнасці работы сельскагаспадарчых арганізацый, якія з'яўляюцца асноўнымі атрымальнікамі дзяржаўнай падтрымкі, з сялянскімі фермерскімі гаспадаркамі.

У малочнай жывёлагадоўлі буйныя сельскагаспадарчыя арганізацыі дэманструюць больш высокую эфектыўнасць. Надой малака ў апошнія пяць гадоў тут быў у сярэднім на 21,3% больш, чым у фермерскіх гаспадарках.

У раслінаводстве ж перавага буйных сельскагаспадарчых арганізацый назіраецца толькі ў вырошчванні збожжавых, зернебабовых культур і буракоў. Па астатніх сельскагаспадарчых культурах ураджайнасць фермерскіх гаспадарак вышэй: бульбы — на 1,6%, агародніны — на 33,9%, а пладоў і ягад — больш чым у 2 разы.

Такім чынам, у сельскай гаспадарцы сучаснай Беларусі ніяк не праяўляе сябе эфект маштабу. Гэта наглядна пацвярджае параўнанне паказчыкаў эфектыўнасці работы арганізацый.

На працягу апошніх шасці гадоў рэнтабельнасць продажаў сельскагаспадарчых арганізацый была значна ніжэй, чым у сялянскіх фермерскіх гаспадарак. Нягледзячы на ўсе праблемы беларускай эканомікі, сярэдні паказчык рэнтабельнасці фермераў каля 20%. У выніку ў 2015 годзе рэнтабельнасць фермерскіх гаспадарак была ў 43 разы вышэй, чым у буйных сельскагаспадарчых арганізацый.

Ашаламляльна адрозніваюцца і паказчыкі плацежаздольнасці арганізацый.

Калі ў фермерскіх гаспадарак Беларусі доля пратэрмінаванай крэдыторскай запазычанасці апошнія шэсць гадоў застаецца ў межах 6–8%, то сельскагаспадарчыя арганізацыі, наадварот, з кожным годам назапашваюць пратэрмінаваныя даўгі, удзельная вага якіх дасягнула ўжо амаль 30%. Такі высокі працэнт «дрэнных» даўгоў стварае істотныя праблемы ўжо для ўсёй беларускай эканомікі.

## Сістэма праваліласяя

Праведзены аналіз паказвае, што сфарміраваная сістэма дзяржаўнай падтрымкі сельскай гаспадаркі, у канчатковым рахунку, не апраўдала сябе. Бюджэтныя сродкі вылучаліся не столькі на перспектыўнае развіццё сельскагаспадарчых арганізацый, колькі на падтрыманне іх бягучай дзейнасці. Аднак створаныя на пэўным этапе цяплічныя ўмовы для сельскагаспадарчых арганізацый аказалі ім кепскую паслугу. Буйныя сельскагаспадарчыя арганізацыі, якія селі на іголку рэгулярнай дзяржаўнай падтрымкі, страцілі рынкавыя стымулы для развіцця.

Агульны рост беларускай эканомікі да пэўнага моманту дазваляў хаваць праблемы нізкай эфектыўнасці сельскай гаспадаркі. Аднак з прыходам эканамічнага крызісу ў адзін момант абясцэніліся ўсе тыя мільярды долараў, якія дзяржава ўклала ў падтрымку сельскай гаспадаркі за апошнія дзесяцігоддзі.




**Малюнак 1: Дзяржаўныя выдаткі на сельскую гаспадарку і рыбагаспадарчую дзейнасць і іх доля ў кансалідаваным бюджэце Беларусі ў 2010–2015 гг., млрд USD. Крыніца: дадзеныя Нацыянальнага статыстычнага камітэта Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага Банка Рэспублікі Беларусь**




**Малюнак 2: Суадносіны сярэдняй ураджайнасці ў 2013–2015 гг. да сярэдняй ураджайнасці ў 2010–2012 гг.,%. Крыніца: дадзеныя Нацыянальнага статыстычнага камітэта Рэспублікі Беларусь**



мяркуе адмовіцца ад кароў, пераключыўшыся выключна на авечак.

«Бараніна цяпер — не самае дарагое мяса, бо шмат хто пачаў ёй займацца. У мяне ферма аграмадная, авечак можна добра распладзіць. Калі годзікі два-тры сваё пагалоўе не буду прадаваць, буду расціць-расціць-расціць, то потым я змагу прадаваць ужо за любую цану, што ў нас будзе на рынку, а свой прыбытак рабіць на пагалоўі, на тым, што іх многа. Думаю, праз пару гадоў гэта можа добра адбіцца», — дзеліцца задумай Вадзім. Вось тады ён, магчыма, зноў зарэгіструе фермерскую гаспадарку.

А вось у крэдыты і лізінгі ён не верыць. Распавёў, што мае знаёмага фермера, які някепска ў свой час зарабіў на продажы бульбы ў Расію, а потым уклаў усе свае грошы ў развіццё гаспадаркі, набыў у лізінг трактароў сабе, саджалак-капалак, і цяпер не ведае, як разлічыцца: «Кажа, што дзеці пэўна будуць разлічвацца. Вырошчваеш, а яна каштуе капейкі, нікому не патрэбна, на складах гніе, але быў год, калі людзі някепска зарабілі».

Вадзім не можа прыгадаць ніводнага выпадку, каб хтосьці прыехаў да яго, як да фермера, з дапамогай. «Я нацярпеўся гэтага ўсяго, мне хапіла — і санстанцыі да мяне праз дзень прыязджалі, і мералі паветра, і зямлю, і колькі ад хлява да студні мералі, і міліцыя да мяне прыязджала, сельсавет прыязджаў, і экалагі… Хто толькі ні прыязджаў! А ўсё таму, што ніхто не хацеў, каб хтосьці зарабляў. Як бачаць, што многа пачынаеш зарабляць, да цябе пачынаюць ездзіць».

Вадзім распавёў, як аднойчы інспектары яму бясплатна агарод ускапалі: «Нехта пазваніў і сказаў, што па вуліцы сабакі цягаюць свіней, а свіней трымаю толькі я, значыць, у мяне свінні дохнуць і сабакі іх цягаюць. Яны прыехалі, пачалі капаць у мяне ўвесь агарод, думалі, што я дохлых свіней закапваю ў сябе ў агародзе. Нічога яны там не знайшлі. Затое агарод ускапалі, мне не трэба было мучацца потым».

Эксперт «Народнай праграмы» па сельскай гаспадарцы Андрэй Юркоў кажа, што беларускія ўлады наўмысна кансервуюць савецкія формы гаспадарання на зямлі і не даюць развівацца фермерству. «Захаванне калгаснай сістэмы — гэта прыхаванае прыгоннае права, якое дазваляе нашаму сённяшняму рэжыму спакойна існаваць, не баяцца нейкіх там хваляванняў народу», — лічыць эксперт. Ён звяртае ўвагу, што «фермеры не выконваюць сацыяльна-палітычнай функцыі трымаць у цуглях народ», таму «інтарэсы таго фермера і калгаса, дзе ёсць сотні працаўнікоў — для ўлады гэта абсалютна розныя рэчы».

Паводле Юркова, каб развівалася фермерства, трэба ўвесці сапраўдную канкурэнцыю і гарантыі зямельных правоў, правесці пісьменную зямельную рэформу. Памятаеце выказаную ў Якуба Коласа класічную мару беларуса:

*Купіць зямлю, прыдбаць свой кут,*
*Каб з панскіх выпутацца пут,*
*І там зажыць сабе нанова:*
*Свая зямля — вось што аснова!*

Тут ёсць складаны момант — як зараз дзяліць зямлю, — тлумачыць Юркоў. «Калі 20 гадоў таму гэта было досыць проста — былі паі ў калгаснікаў, то на сённяшні дзень гэта значна складаней, бо тыя людзі адышлі, новыя, што прыйшлі, такіх старажылаў, што ўсё жыццё адпрацавалі ў калгасе — іх не так і багата. І каму гэта патрэбна зямля?»

Эксперт звяртае ўвагу на розніцу падыходаў у Расіі і Украіне да гэтага пытання. «І там, і там зямлю на паі падзялілі. Але ва Украіне сёння пяты прэзідэнт, і паі паўсюдна не прадаюцца, а знаходзяцца ў прыватнай уласнасці, і за іх арэндная плата даецца. А ў Расіі дазволілі адразу продаж гэтых зямельных надзелаў латыфундыстам, якія скупілі гэтыя тысячы, мільёны гектараў зямлі. І сяляне зараз на той зямлі працуюць, не маючы ўласнасці гэтай зямлі… Які мы шлях абярэм — гэта ўсё залежыць ад нас».

# Рэдкая птушка — беларускі фермер



Антон ПЛАТАЎ

**У беларускім аграпрамысловым комплексе фермер сёння — гэта ўсё яшчэ рэдкая птушка. Дзяржава стварыла для прыватніка вельмі складаныя ўмовы працы, а ён, нягледзячы на гэта, паказвае высокую эфектыўнасць. Калі выжывае.**

## Нелюбімыя дзеці калгаснага ладу

Калісьці даўно беларуская ўлада бачыла ў фермерах рэальны шанец рэфармаваць беларускі АПК. У 1991 годзе быў прыняты закон «Аб сялянскай (фермерскай) гаспадарцы», і ў той момант меркавалася, што ён стане асноўным стартавым дакументам для развіцця прыватнага аграсектару. У той перыяд па ўсёй Беларусі было створана больш за шэсць тысяч фермерскіх гаспадарак. Аднак потым краіну ўзначаліў былы дырэктар саўгаса, і фермеры сталі не патрэбныя дзяржаве.

Толькі за апошнія дзесяць гадоў спынілі сваю дзейнасць больш за чатыры тысячы фермерскіх гаспадарак. Аднак тыя, што засталіся, — не «дзякуючы», а «насуперак», — паказваюць надзіва эфектыўную працу.

Мы паспрабавалі прааналізаваць, з чаго можа складацца камерцыйны поспех беларускага фермера сёння. Агульнага рэцэпту поспеху адшукаць не атрымалася. Але стала зразумела, што сёння маюць поспех (вельмі адносны, вядома) тры тыпы фермераў.

Першы: тыя, хто заняты традыцыйным аграбізнесам (свінагадоўля, зерневыя культуры), але мае вялікі досвед і здолеў аптымізаваць даўно адпрацаваную традыцыйную схему працы.

Другі: тыя, хто займаецца экзотыкай — разводзіць страусаў, вырошчвае грыбы або дурніцы, гадуе бараноў ці трусоў. То бок заняў унікальную нішу і не мае канкурэнтаў, у тым ліку сярод мясцовых аграпрадпрыемстваў.

Трэці: тыя, хто мае блізкія (звычайна роднасныя) сувязі з мясцовай уладай і першапачаткова ладзіў свае фермерства з разлікам на выкарыстанне гэтага рэсурсу.

## Два прыклады

У дзяржаўныя сельгаспрадпрыемствы ўлады штогод укладваюць трыльёны рублёў, але, нягледзячы на гэта, большасць з іх — стратныя. Аднак у рэальным жыцці галоўнымі пацярпелымі аказваюцца фермеры.

У 2014 годзе шырока вядомай стала гісторыя фермера Аляксандра Крупенкі са Светлагорскага раёна. Годам раней ён здаў дзяржаўнаму прадпрыемству вырашчаную кукурузу, але яму за яе проста не заплацілі. Вынік — знаходжанне на мяжы банкрутства.

Сам Крупенка распавядаў пра гэта так: «Быў добры ўраджай кукурузы. Адвёз на Рэчыцкі камбінат хлебапрадуктаў. Прынялі тавар і абяцалі разлічыцца да новага года. Калі прыйшоў час, сказалі, што камбінат у даўгах, грошай зусім няма, і аддалі кукурузу назад. Потым я яе здаў на ААТ «Калінкавічыхлебапрадукт». Усе перавозкі, натуральна, за свае грошы. Але ў Калінкавічах таксама не заплацілі. Увесну не змог купіць ні паліва, ні ўгнаенняў — нічога. У раёне засталіся ўсяго два фермеры. Мы таксама шмат каму вінныя. Таму што гэта — замкнёнае кола: мы паставілі гаспадаркам камбікорм, а яны з намі не разлічыліся. Адказ ва ўсіх адзін, маўляў, вы самі разумееце, якая ў нас сітуацыя ў сельскай гаспадарцы!»

Процілеглы прыклад — гісторыя кітайца Сюаджон Вына, які прыехаў у Беларусь з Пекіна. Ён купіў дом у вёсцы Пральнікі, узяў пад Ракавым 120 гектараў зямлі ў арэнду і стварыў там прыбытковую фермерскую гаспадарку пад назвай «Happy farm». Заняўся гадоўляй авечак, вырошчвае часнок, цыбулю, зеляніну, салодкую кукурузу. Каб пазбегнуць канкурэнцыі, кітаец эксперыментуе з прадуктамі, якія ў нас мала хто вырошчвае.

Журналістам Сюаджон Вын распавёў: «Працоўная сіла — яе, вядома, бракуе. Людзей бракуе. Цяжка знайсці, моладзі мала. Усе з'ехалі ў Мінск. Усё астатняе — лепш, чым у Кітаі. Тут шмат зямлі. Вольнага месца шмат. Чыстае паветра». Праўда, на самай справе галоўны сакрэт поспеху «Happy farm» у тым, што кітайскі фермер пастаўляе прадукты суайчыннікам — на будаўніцтва кітайска-беларускага тэхнапарку «Вялікі камень». Адтуль жа бярэ працоўных на будаўніча-рамонтныя работы.

Як бачым, розніца паміж паспяховым фермерам-кітайцам і праблемным фермерам-беларусам у тым, што кітаец пазбягае супрацоўнічаць з беларускімі дзяржструктурамі і мясцовымі ўладамі, а беларус — змушаны гэта рабіць.

## Што трэба зрабіць?

Дзяржава развіццю фермерства нават на словах садзейнічае неахвотна. У лютым 2016-га была прадстаўленая чарговая праграма развіцця аграрнага бізнесу ў Беларусі на 2016–2020 гады. Але гэта зноў атрымаўся злепак папярэдніх правальных дакументаў — проста таму, што рыхтавалася яна ўсё тымі ж людзьмі і пад кіраўніцтвам усё таго ж Міхаіла Мясніковіча.

Калі не паглыбляцца ў аналіз, можна сказаць адно: ключавы элемент любой аграрнай рэформы — раздача зямлі людзям, то бок рэальная прыватная ўласнасць на зямлю. Гэтага беларускія ўлады баяцца проста панічна. А без прыватнай уласнасці на зямлю эфектыўнае фермерства немагчыма.

Што можна зрабіць у цяперашніх умовах, каб фермерская справа стала прыбытковай? Ёсць, прынамсі, адна ніша, якую беларускія фермеры могуць эфектыўна асвойваць ужо сёння: развіваць зялёнае фермерства.

Пакуль галіна «арганічнай ежы», ужо добра развітая ў Польшчы і Літве, у Беларусі толькі нараджаецца. Я, напрыклад, знайшоў усяго дзве прыватныя кампаніі, якія мэтанакіравана працуюць з фермерамі ды пастаўляць на рынак і прадаюць праз інтэрнэт чыстыя прадукты харчавання. Іх прадстаўнікі сцвярджаюць, што ў Беларусі добра калі набярэцца два дзясяткі фермераў, якія вырабляюць на самай справе экалагічна чыстыя прадукты. А попыт на іх ёсць нават ва ўмовах крызісу. Значыць, гэта рынкавая ніша, якая пакуль адкрытая для фермераў, нават у нялёгкіх беларускіх умовах.

# Бульбаводства: не карміце чужога вытворцу

Анатоль ГУЛЯЕЎ

**Дасюль захоўваецца стэрэатып, што Беларусь — бульбяны край. Ці так гэта на самай справе? На гэта і іншыя пытанні адказвае намеснік генеральнага дырэктара па навуковай рабоце Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Навукова-практычны цэнтр НАН Беларусі па бульбаводству і агароднінаводству» Вадзім Маханько.**



***— На пачатку 1990-х гадоў пасевы бульбы ў дзяржаўным і прыватным сектары былі прыкладна аднолькавыя: каля 350 тысяч гектараў у калгасах і саўгасах. І столькі ж на прысядзібных і дачных участках. Беларусь тады атрымлівала каля 10 мільёнаў тон бульбы, з іх 1 мільён ішоў на экспарт. А зараз?***

— Цяпер і ў грамадскім сектары, і ў прыватным разам засяваецца толькі каля 350 тысяч гектараў. Такім чынам, мы маем палову ад таго, што было раней.

Па-першае, вёска старэе, стала значна менш тых, хто традыцыйна засяваў па 20–30 сотак, а то і да гектара бульбы. Другая прычына ў тым, што вырошчваць бульбу становіцца ўсё даражэй. І большая частка насельніцтва лічыць: лепей купляць яе ў буйнога вытворцы праз краму ці рынак.

Па-трэцяе, працягваецца канцэнтрацыя вытворчасці. І калі ў мінулыя часы бульбу вырошчвалі ўсе калгасы — хоць па 20–30 гектараў, але ўсе... То сёння гэтым займаюцца толькі асобныя СВК (сельскагаспадарчыя вытворчыя кааператывы), але на плошчах ад 200 да 1000 гектараў. Адзначым — для беларускіх гаспадарак тысяча гектараў — гэта надта шмат.

Вялікі ўплыў мела прынятая ў краіне праграма развіцця бульбаводства, падмацаваная вялізнымі дзяржаўнымі інвестыцыямі. Палепшылася ўсё: кадры, інфраструктура, тэхніка, гатункі, насенне...

У выніку валавая вытворчасць за мінулы год, пры болей чым у два разы меншых плошчах, склала каля 7 мільёнаў тон. З іх каля 300 тысяч тон пайшло на экспарт. У асноўным у Расію.

***— Беларусь гандлюе бульбай толькі з Расіяй?***

— Так, у асноўным з Расіяй. Справа ў тым, што ў межах саюзнай дзяржавы дзейнічае спрошчаны дакументаабарот — што важна і для вытворцаў, і для пакупнікоў.

Акрамя таго, з 2000 года ўвоз клубневага матэрыялу на тэрыторыю ЕС забаронены. Да нас можна везці. Да іх — не. Яны абараняюць свайго фермера. У Францыі толькі такая правінцыя, як Брэтань, можа пракарміць 10 Францый усімі прадуктамі харчавання.

Дарэчы, зараз і ў ЕС не ўсё проста. Вось Польшча прыняла еўрапейскія патрабаванні да бульбы. За што і пацярпела. Раней у краіне было 5 буйных насенневодчых станцый. Засталося дзве. У 1991 годзе ў Польшчы 20% плошчаў бульбы займалі іншаземныя гатункі, а 80% польскія. Цяпер — 80% нямецкія і галандскія, 20% польскія.

***— Дарэчы, пра гатункі... Раней праблемай беларускага бульбаводства лічыўся недахоп якасных уласных гатункаў. А цяпер?***

— У рэестры Беларусі зараз 45 сваіх гатункаў плюс 25 расійскіх. Але ў Галандыі, напрыклад, каля 150 уласных, нямецкіх і амерыканскіх. У Германіі болей за 200, Расіі — каля 400, у Францыі — больш за 300 гатункаў...

***— Вялікая колькасць гатункаў — паказчык лепшага развіцця галіны?***

— Не, зусім не! Бо ў кожнай краіне 75–80% плошчаў займаюць 10–12 асноўных гатункаў. У нас гэта 12 гатункаў, якія размешчаны на 70–80 працэнтах плошчаў. З іх 10 беларускіх, 2 замежных. Першае месца займае гатунак «Скарб». З розніцай у паўпрацэнта — «Брыз». Далей галандскі «Рэд Скарлет»...

А яшчэ, вялікая колькасць гатункаў — гэта і вялікія выдаткі.

***— Беларусь у СССР лічылася па бульбе «наперадзе планеты ўсёй». Але, паводле апошніх дадзеных, расіяне зараз крочылі далей за нас: у спецыялізацыі, вытворчасці, і асабліва ў перапрацоўцы...***

— У нас няма такіх буйных прыватных аграхолдынгаў, якія ёсць у Расіі, што маюць ад 2 000 да 15 000 гектараў толькі бульбы. Вось вам — канцэнтрацыя вытворчасці! А чым вышэй канцэнтрацыя, тым ніжэй сабекошт.

Далей — перапрацоўка. У Расію прыйшлі буйныя міжнародныя кампаніі па вытворчасці чыпсаў, у тым ліку «Пепсіко», «Фрыталэй» — вакол іх стварэецца ўласная сыравінная зона.



Але ёсць і тое, у чым мы пайшлі крыху далей за расіян — гэта стварэнне новых гатункаў і насенневодства. Дзяржавай укладзены вялікія грошы — і вынік ёсць. Калі ў мінулым годзе Расія атрымала 7 мільёнаў мініклубняў (існуе такі паказчык у насенневодстве), то мы — 3 мільёны. Давайце супаставім тэрыторыі — у нас, па нашых тэрыторыях, у выніку, болей.

Наступны момант: Расія, дзякуючы вялізнаму прыватнаму капіталу, за апошнія два гады ў асноўным забяспечыла сябе бульбай уласнай вытворчасці. Таварная бульба з іншых краін купляецца ў мізэрных колькасцях. Прычым, не проста сталовая бульба, а толькі павышанай якасці. У мінулым годзе звычайная бульба каштавала ў Расіі 10 рублёў за кілаграм, сярэдняй якасці 30–40, вышэйшай — 90–100...

Увогуле, краіны, якія займаюцца вытворчасцю бульбы, сёння перайшлі на продаж па кулінарных тыпах — ABCD. У тым ліку: А — кулінарны тып бульбы, якая не разварваецца, D — вельмі моцна разварваецца... І на ўпакоўцы абавязкова ўказваецца кулінарны тып, назва гатунку, пералік страў, якія з дадзенага тыпу бульбы можна прыгатаваць. У Беларусі ніхто з вытворцаў пакуль што так не працуе.

**Пры сучасным узроўні вытворчых адносін, адзін заняты ў сельскай гаспадарцы чалавек забяспечвае працай яшчэ да 18 жыхароў краіны. Калі мы купляем чужую бульбу — кормім чужога вытворцу**

***— І ў выніку што мы можам сказаць пра стан галіны ў Беларусі?***

— Я б назваў яго станам перманентных перамен. Перамен недзе да аптымізацыі, недзе да паляпшэння. Недзе, магчыма, ёсць і рэгрэс... Але адназначна можна сказаць — галіна развіваецца. Мяняюцца наша свядомасць, нашы адносіны да бульбы. Ну, напрыклад, — ці можна было ўявіць сабе 20 гадоў таму, што ўся наша таварная бульба будзе запакаваная ў сеткі? Сёння ніхто з табой не будзе размаўляць, калі вытворца не выкарыстоўвае нармальную ўпакоўку. Прычым, аптовы пакупнік замаўляе не толькі, скажам, вагу і аб'ём сеткі, але і гатунак бульбы, колер.

***— Раней слабым месцам у Беларусі заўсёды была перапрацоўка...***

— У поўнай ступені і застаецца. Бо асноўны прадукт перапрацоўкі бульбы ў нас — крухмал. У краіне сёння 10 крухмальных заводаў, у тым ліку мы пабудавалі 3 новыя. Адзін у Пружанскім раёне пабудаваны на кітайскія інвестыцыі і працуе па кітайскіх тэхналогіях. Другі — «Друць» у Бялыніцкім раёне — зноў жа, кітайскія крэдыты, абсталяванне і тэхналогіі. Але самы, так бы мовіць, шыкоўны крухмальны завод — «Рагозніца» ў Мастоўскім раёне, які працуе па шведскай тэхналогіі. Гэта, вобразна кажучы, «Ролс-Ройс» у свеце абсталявання па вытворчасці крухмалу.

Будаўніцтва новых прадпрыемстваў звязана таксама з тым, што перад намі стаяла (і стаіць дагэтуль) праблема якасці. Бо ў Беларусі, амаль заўсёды, на перапрацоўку ў крухмал ідуць адходы бульбы, ці тыя аб'ёмы, што вытворца не змог рэалізаваць. А гэта, амаль заўсёды, нізкаякасны прадукт. Што дрэнна, бо кан'юнктура рынка спрыяльная — у Расіі попыт на крухмал расце. Крухмал з ЕС больш якасны, але ён надта дарагі. І мы павінны заняць тое месца, што займала прадукцыя Еўрасаюзу. Таму непазбежна трэба павышаць якасць.

А крухмал — гэта сінтэтычныя фарбы, лакі, пластык... Між іншым, ні адзін карабель НАСА не мог бы ўзляцець без выкарыстання крухмалу з бульбы. Таму што ён выкарыстоўваецца для вытворчасці пэўных катэгорый ізалятараў правадоў.

Раней попытам у Расіі карысталася сухое бульбяное пюрэ, але зараз у іх пабудаваны свае заводы. Рэалізаваць нашу прадукцыю стала складана.

Рэстараны «Макдональдс», якія працуюць у Беларусі, нашу бульбу не прымаюць — яны выкарыстоўваюць толькі паўфабрыкат. А ў польскіх Катавіцах пабудаваны завод, які забяспечвае бульбай фры Польшчу, Чэхію, Славакію, усе краіны Балтыі, Беларусь і нават частку Расіі.

Але я хацеў бы падкрэсліць: сітуацыя ў галіне дае падставы для аптымізму. Да таго ж, не магу не адзначыць вельмі важны фактар: пры сучасным узроўні вытворчых адносін, адзін заняты ў сельскай гаспадарцы чалавек забяспечвае працай яшчэ да 18 жыхароў краіны. Гэта транспарт, перапрацоўка, гандаль... Такім чынам, калі мы займаемся бульбай па ўсім тэхналагічным цыкле — ад насенневодства да перапрацоўкі і гандлю — мы кормім нашых 18 чалавек. Калі купляем чужую бульбу ці хаця б толькі насенне — кормім чужога вытворцу.





# Пасля Аланда будзе Жупэ

Алег НОВІКАЎ

**У Францыі стартавалі сацыялагічныя апытанні наконт магчымых кандыдатаў на пасаду прэзідэнта. Нагадаем, прэзідэнцкія выбары ў Францыі адбудуцца ў красавіку 2017 года. Паводле першых вынікаў, лідарам краіны можа стаць Ален Жупэ.**

Літаральна напярэдадні таго, як палітыкі пачалі агучваць свае намеры пераехаць у Елісейскі палац, у продажы з'явілася кніжка «Un president ne devrait pas dire» («Прэзідэнт не павінен так казаць»). У кнізе, якую напісалі два журналісты выдання «Le Monde», са спасылкай на крыніцы ў атачэнні прэзідэнта сцвярджаецца, што Франсуа Аланд схіляецца да таго, каб не ўдзельнічаць у выбарах.

Такое рашэнне прэзідэнта-сацыяліста падаецца цалкам слушным з улікам таго, што 86 працэнтам французаў яго кандыдатура на выбарах не спадабаецца. З іншага боку, заўчасная капітуляцыя Аланда ператварае выбары–2017 у беспрэцэдэнтную з'яву. Паводле канонаў V рэспублікі, дзеючы прэзідэнт (калі ён паводле Канстытуцыі мае права балатавацца) практычна аўтаматычна лічыцца кандыдатам ад сваёй партыі на выбарах.

Гэтым разам, калі верыць аўтарам кнігі, кандыдатура ад сацыялістаў вакантная. І заняць гэтую пасаду хапае ахвотных. На цяперашні момант амбіцыі павесці сацыялістаў на выбары маюць дзевяць асобаў. Найбольш яскравыя персанажы ў гэтым пуле — прэм'ер Мануэль Вальс і экс-міністр эканомікі Арно Мантэбур, які лічацца трыбунам левай фракцыі.

Праймерыз, на якіх будзе агучана імя кандыдата ад сацыялістаў, запланаваныя на студзень наступнага года. Праблема, аднак, палягае ў тым, што свой брэнд вядучай левай палітсілы сацыялісты страцілі з-за цяперашняга супрацьстаяння некаторых прафсаюзаў і ўраду. Гаворка пра рэформу працоўнага заканадаўства, так званы закон Эль-Камры. Пра гэты закон «НЧ» пісаў у №22.

Хаця шмат сацыялістаў выступілі супраць заканадаўчай ініцыятывы Эль-Камры, імідж партыі выратаваць не ўдалося. Інакш бы не з'явіліся фігуры, якія намагаюцца стаць новымі фронтменамі французскай левай.

Напэўна, найбольш цікавая персона тут — Эмануэль Макрон, экс-сакратар Аланда і экс-міністр эканомікі, якога, дарэчы, шмат хто лічыць сапраўдным аўтарам закона Эль-Камры. У жніўні Макрон стварыў групоўку «En marche!» і анансаваў сваю прэзідэнцкую кампанію. У Макрона своеасаблівы погляд на трэнды французскай палітыкі. Ён лічыць, што ў Францыі назіраецца трансфармацыя палітычнага пейзажу па прыкладзе Польшчы, дзе супрацьстаянне «левыя супраць правых» змяніла супрацьстаянне «кансерватары супраць лібералаў». Сваё месца ў новай формуле Макрон бачыць як лідар лібералаў, якому ў перспектыве будзе супрацьстаяць «Нацыянальны фронт» (FN) Марын Ле Пэн.

Аднак ёсць і іншыя погляды на будучую траекторыю французскай палітыкі. Частка левых марыць пра перагрупоўку, у выніку якой у краіне паўстане моцны левы цэнтр (аналагам якога можна лічыць нямецкую партыю «Левыя»). Менавіта такі сцэнар абараняе Жан-Люк Меланшон — вядомы левы палітык, лідар французскай «Левай партыі». Адзначым, што фігура Меланшона больш цікавая для левага выбаршчыка, чым сацыялісты. У выпадку выбараў Меланшон атрымаў бы 34 працэнты, у той час як іншыя кандыдаты-сацыялісты могуць прэтэндаваць, у лепшым выпадку, на 19 працэнтаў. Праўда, пакуль большасць экспертаў не бачыць Меланшона ўдзельнікам другога тура выбараў.

Не менш забаўныя працэсы ідуць сярод правых. Доўгі час лічылася, што галісты — вядучыя апаненты сацыялістаў, — абавязкова спыняцца на кандыдатуры экс-прэзідэнта Нікаля Сарказі. Апошні не так даўно вярнуўся ў вялікую палітыку і адразу вельмі гучна заявіў пра сябе. Аж да таго, што перайменаваў партыю «Саюз за народны рух» у «Рэспубліканцы». Аднак ужо ўлетку стала зразумела, што правая Францыя не ў захапленні ад асобы Сарказі. Дастаткова сказаць, што 52 працэнты тых, хто галасаваў за Сарказі ў 2012 годзе, шукаюць сабе новых куміраў.

Не дзіўна, што ў Сарказі з'явілася мноства апанентаў, у тым ліку Валеры Жыскар-д'Эстэн — прэзідэнт Францыі 1974–1980 гадоў. Нягледзячы на тое, што Жыскар-д'Эстэн нарадзіўся ў 1926 годзе (!), ён лічыць, што зможа годна выконваць функцыі гаранта.

Праўда, Жыскар-д'Эстэн у дэбатах прэтэндэнтаў у кандыдаты ад «Рэспубліканцаў», якія прайшлі на мінулым тыдні на канале TF1, удзелу не браў. Яго адсутнасць кампенсавалі сем чалавек, уключаючы, натуральна, Сарказі. Вынікі дэбатаў аказаліся ў чымсьці сенсацыйнымі. Адназначным фаварытам праймерыз ад правых стаў Ален Жупэ. Былы прэм'ер і цяперашні мэр Бардо.

Чым уразіў 66-гадовы Жупэ французскі правы электарат? Паводле большасці каментатараў, мэр Бардо спадабаўся больш прагматычнымі і ўзважанымі поглядамі на фоне Сарказі, які намагаўся набіраць пункты за кошт агрэсіўнай ісламафобіі і выглядаў эпігонам Марын Ле Пэн з «Нацыянальнага фронту», якая даўно крытыкуе палітыку міграцыі. Згуляла на карысць Жупэ і тое, што ён лічыцца чалавекам з каманды Жака Шырака, аўтарытэт якога ў грамадстве дагэтуль вельмі высокі.

Так ці інакш, па выніках шэрагу сацыялагічных апытанняў, за Жупэ гатовыя прагаласаваць 42 працэнты рэспандэнтаў. А вось Сарказі, калі б партыйныя праймерыз адбыліся зараз, сабраў бы толькі 30 працэнтаў. Не вельмі аптымістычна гучаць для яго і апытанні наконт магчымых вынікаў другога туру праймерыз: з такім раскладам Жупэ меў бы 61 працэнт супраць 30 працэнтаў у Сарказі. Паколькі першы тур унутрыпартыйнага галасавання павінен адбыцца ўжо напрыканцы лістапада, некаторыя ўжо зараз пачалі віншаваць Жупэ з перамогай. І не толькі на ўнутрыпартыйным галасаванні.

На думку палітолагаў, Жупэ на першых дэбатах намацаў глебу, каб зрабіць сабе рэнамэ прадстаўніка палітычнага цэнтру. Постаць цэнтрыста гарантуе яму поспех у другім туры прэзідэнцкіх выбараў, дзе, хутчэй за ўсё, яго чакае дуэль з Марын Ле Пэн, якую сярэднестатыстычны француз дасюль трымае за непрадказальную экстрэмістку.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

На працягу наступных двух гадоў Беларусь і Казахстан могуць сутыкнуцца з сур'ёзнымі палітычнымі і эканамічнымі праблемамі. Не будучы ў стане разлічваць на фінансавую дапамогу з боку Расіі з прычыны нізкіх коштаў на нафту і эканамічнага крызісу, Аляксандр Лукашэнка пачаў ажыццяўляць «папярэднюю лібералізацыю» Беларусі, адкрыўшы краіну для інвестыцый і крэдытаў Захаду. Таксама Лукашэнка імкнецца да адмены санкцый ЕС і праяўляе «прыязнае стаўленне» да Кіева. Для «ўсё больш паранаідальнага Пуціна» гэта можа азначаць паслабленне ваеннай надзейнасці краіны, якая знаходзіцца паміж Расіяй і NATO. Яшчэ вялікая небяспека, на думку Пуціна, можа палягаць у «дэмакратычнай рэвалюцыі» Лукашэнкі, якая адарве Беларусь ад Расіі і прывяжа яе да Захаду.

**ValueWalk (ЗША)**

Дамова наконт нафты з Масквой не толькі міжбюджэтная, але і маральная кампенсацыя за чарговую адмову МВФ у крэдыце. Рэкамендацыі МВФ тыднем раней Аляксандр Лукашэнка назваў зневажальнымі. Дарэчы, у тых рэкамендацыях нічога новага, акрамя неабходнасці рэформаў, не было напісана. Але дзеля чаго рэформы? Калі на ўсходзе можна дамагчыся любой газавай саступкі — галоўнае, каб было прыгожа сфармулявана, быццам бы гэта сам Крэмль высакародна дапамагае саюзніку, — можна яшчэ раз паспрабаваць згуляць у тую ж гульню з Захадам.

**«Новая газета» (Расія)**

Калі кажуць, што гэта патрабаванні МВФ, і альтэрнатыў няма, дык хацелася б трошкі адкруціць гісторыю назад, да таго моманту, калі мы знаходзіліся ў перадмайданным стане. Нас тады палохалі: мы ператвараемся ў Беларусь. Усё дрэнна, усё жудасна, у нас аўтарытарызм, усё, як там. Таму давайце, каб вось такога не было, возьмем цёплыя рэчы, парасоны, выкажам сваю пазіцыю і зробім, каб было лепш. Але спадар Лукашэнка гаворыць з МВФ інакш, чым мы. І адмаўляецца выконваць тыя патрабаванні, якія яны высоўваюць. Ён знаходзіць магчымасць весці больш жорсткі дыялог і адстойваць інтарэсы сваёй дзяржавы і грамадзян. У нас жа могуць наступіць на горла любым патрабаванням украінцаў, дзеля таго, каб атрымаць чарговую транш-дозу.

**«Голос» (Украіна)**

Апошнім часам Беларусь стала прыкметна дрэйфаваць у бок ад Расіі, шукаючы пэўны баланс паміж Захадам і Крамлём. Як даказвае практыка, быць абсалютна залежнымі ад Расіі ў палітычным і эканамічным плане нявыгадна. Таму Беларусь спрабуе захаваць сабе магчымасць пэўнага манеўру, у тым ліку за кошт украінскай сітуацыі. У іх была магчымасць — і яны ёю скарысталіся.

**«Обозреватель» (Украіна)**

Мінск запусціў нейкія сур'ёзныя працэсы: разам з Кітаем распрацаваныя ракетныя сістэмы залпавага агню «Паланез», адна назва якіх, уласна, намякае. Названыя яны ў гонар «Паланеза» Агінскага, які беларускія нацыяналісты лічаць ледзь не гімнам краіны. Агінскі ваяваў з Расіяй і быў вымушаны з'ехаць з Польшчы, калі было задушана паўстанне Касцюшкі. Трэба сказаць, што такія паводзіны тлумачыцца яшчэ і тым, што ў яго (Лукашэнкі) ў Маскве даволі шмат «карысных ідыётаў», якія лабіруюць яго інтарэсы і абгрунтоўваюць неабходнасць выдзялення яму розных ільготаў.

**«Экономика сегодня» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ПАР. Кампрамат на Гандзі

У Паўднёвай Афрыцы выйшла кніга «The South African Gandhi: Stretcher-Bearer of Empire» («Гандзі ў Паўднёвай Афрыцы: санітар Імперыі»), напісаная двума аўтарамі. У кнізе ставіцца пад сумнеў звыклы вобраз Гандзі — лідара індыйскага руху за незалежнасць, аўтара канцэпцыі негвалтоўнага супраціву. Са спасылкай на дзённікі і нататкі Гандзі, якія знаходзіўся ў Паўднёвай Афрыцы з 1893 па 1914 год, яны сцвярджаюць, што той быў заўзятым прыхільнікам Брытанскай імперыі. У сваіх запісах ён выказвае падтрымку Лондану, паколькі той можа зрабіць індусаў-эмігрантаў партнёрамі ў каланіяльнай палітыцы ў Афрыцы. Малады Гандзі нават абураецца, што брытанцы прымушаюць індусаў ездзіць разам з тубыльцамі ў адных вагонах чыгункі. Між тым, як піша Гандзі, індусы і еўрапейцы маюць агульныя арыйскія карані. Што тычыцца афрыканцаў, дык ён лічыў іх у лепшым выпадку дзікунамі. Трэба заўважыць, што гэта не першы кампрамат на Гандзі. У яго заўжды хапала палітычных апанентаў, якія намагаліся знайсці нейкі негатыў ва ўчынках і біяграфіі Гандзі. Аднак гэтым разам яго постаць сапраўды пад пагрозай. Цяпер пры ўладзе ў Індыі індуская нацыяналісты, якія традыцыйна змагаюцца з партыяй «Індыйскі нацыянальны кангрэс» (партыя Гандзі). Яны ўжо віталі выхад кнігі.

**Паводле брытанскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Лёс аднаго чэрапа

Расія перадала Казахстану чэрап Кейкі-батыра (Нурмаганбета Какембайулы) — удзельніка антыцарскага паўстання 1916 года, лідара антысавецкага руху, героя народнага фальклору. Чэрап знаходзіўся ў піцерскай Кунсткамеры, куды, быццам, трапіў пасля таго, як у 1923 годзе чырвоныя забілі Кейкі-батыра і адвезлі яго галаву ў Арэнбург, адкуль пазней чэрап трапіў у Пецярбург. Нарэшце праз 20 гадоў перамоваў парэшткі трапілі ў Казахстан, дзе адразу сталі аб'ектам афіцыйнага культу і прадметам спрэчак. Цэнтральныя ўлады прапануюць перапахаваць парэшткі ў нацыянальным пантэоне казахскіх герояў, які якраз плануюць пабудаваць. З іншага боку, улады рэгіёну, дзе дзейнічаў батыр, ужо пабудавалі пад іх маўзалей. Нарэшце, гісторыкі лічаць, што чэрап павінен знаходзіцца ў адным з цэнтральных музеяў. Чым скончыцца гэта дыскусія, незразумела, у тым ліку і таму, што патрэбны шэраг даследаванняў для пацвярджэння сапраўднасці парэшткаў Кейкі-батыра. Між тым, ёсць думка, што мы ўсе сталі сведкамі піяр-акцыі. Перамовы па перадачу чэрапа цягнуліся амаль 20 гадоў, аднак іх развязка надышла толькі тады, калі Казахстан трапіў у самы цяжкі за апошнія 15 гадоў крызіс.

**Паводле казахскай прэсы**

### УКРАІНА. Новы зігзаг нацыяналізму

У Кіеве адбыўся ўстаноўчы з'езд партыі «Нацыянальны корпус». Лідарам новай партыі абраны Андрэй Бялецкі — камандзір добраахвотнага корпусу «Азоў». Між тым, палітолагі адзначаюць, што праграма партыі Бялецкага кардынальна адрозніваецца ад установак папярэдняй генерацыі ўкраінскіх нацыяналістаў. Апошнія разумелі нацыяналізм як ідэалогію барацьбы з Расіяй, у выніку якой Украіна павінна стаць часткай Еўропы. Бялецкі выступае рашуча супраць арыентацыі Украіны на Еўрасаюз, агучвае выразна расісцкія лозунгі. У дадатак партыя Бялецкага — пераважна партыя ўкраінцаў, якія размаўляюць па-руску. У комплексе гэта ставіць «Нацыянальны корпус» у апазіцыю да старых нацыяналістаў. У прынцыпе, падобных утварэнняў хапала і раней, аднак партыя Бялецкага сёння — безумоўна, вядучы праект на правым флангу ўкраінскай палітыкі, беручы пад увагу аўтарытэт «Азова» (менавіта «Азоў» абараніў ад сепаратыстаў Марыупаль) і крызіс іншых праварадыкальных структур: «Правага сектару» і аб'яднання «Свабода».

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### АЎСТРЫЯ. Дом, дзе нарадзіўся Гітлер, знясуць

Пасля шматлікіх судовых працэсаў і дэбатаў высветлены лёс дому, дзе ў 1889 годзе нарадзіўся Адольф Гітлер. Будынак — сціплы трохпавярховы дом у стылі мадэрн канца XIX стагоддзя, які знаходзіцца ў горадзе Бранаў, — вырашана знесці. Як кажуць у мясцовай мэрыі, на месцы былога дома пабудуюць новы комплекс, які будзе выкарыстоўвацца для дабрачынных мэтаў. Ідэя рэканструкцыі паўстала ў ліпені, калі аўстрыйскі федэральны ўрад вырашыў нацыяналізаваць аб'ект у горадзе Бранаў, прапанаваўшы яго ўладальніку грашовую кампенсацыю. Неабходнасць такога рашэння была звязаная з тым, што дом стаў месцам, куды кожны год прыходзяць турысты-нацысты, якія дасталі мясцовых бюргераў. Аднак ідэю знішчэння дому шмат хто не падтрымаў. На абарону дома паўстала шмат гістарычных арганізацый. Але ў выніку абараніць будынак не атрымалася, хаця апошняе слова ўсё яшчэ за парламентам. У прынцыпе, у некаторым сэнсе праціўнікі разбурэння дома маюць рацыю. Для неанацыстаў больш важна само месца, дзе нарадзіўся іх кумір, а не тое, што там стаіць.

**Паводле нямецкай прэсы**



> **Адміністрацыя Абамы заўжды надавала шмат увагі космасу і намагалася «дэмілітарызаваць» гэты накірунак**

# І пра касмічнае надвор'е

*Алег НОВІКАЎ*

**Што хаваецца за пастановай Барака Абамы, паводле якой амерыканцы павінны цягам 120 дзён падрыхтавацца да ўдару з космасу?**

Апошнім часам слова «катастрофа» ўжываецца ў амерыканскім палітычным лексіконе выключна ў прывязцы да Дональда Трампа. Менавіта катастрофа, па словах праціўнікаў кандыдата ад рэспубліканцаў, чакае ЗША ў выпадку перамогі эксцэнтрычнага мільярдэра на выбарах 8 лістапада. У гэтым плане заява прэзідэнта Абамы ад 15 кастрычніка гучыць нейкім дысанансам: у дакуменце гутарка таксама ідзе пра пагрозу катастрофы, але не з боку Трампа, а з космасу. Выклікаць яе можа так званае «касмічнае надвор'е» — з'явы глабальнага, далёкага космасу, якія выклікае актыўнасць сонца і якія здольныя ўплываць на Зямлю.

«Праявы касмічнага надвор'я ў форме сонечных выбліскаў, касмічных прамянёў і геамагнітных бураў адбываюцца пастаянна, і некаторыя маюць адчувальныя наступствы для сістэм крытычна важнай інфраструктуры і тэхналогій, напрыклад, сістэмы GPS, працы спадарожнікаў, сувязі, авіяцыі і сетак электраперадачы», — гаворыцца ў тэксце прэзідэнцкага дакумента.

Значны блок дакумента тычыцца апісання наступстваў, якія нясе патэнцыйны «ўдар з космасу»: «Экстрэмальныя падзеі такога маштабу могуць прывесці да адключэння значнай часткі электрасетак і паўплываць на электразабеспячэнне, водазабеспячэнне, ахову здароўя і транспарт».

Зыходзячы з усяго апісанага, прэзідэнт ЗША канстатуе: «Паспяховая падрыхтоўка да негатыўных праяў касмічнага надвор'я — гэта задача для ўсёй краіны, якая патрабуе супрацоўніцтва паміж урадам і кіраўнікамі па надзвычайных сітуацыях, навукоўцамі, СМІ, страхавой індустрыяй, няўрадавымі арганізацыямі і прыватным сектарам».

У прынцыпе, для навуковай супольнасці гэта ўсё матчастка. І без падобнага ліста вучоныя даўно працуюць над тым, як мінімізаваць эфект электрычных штормаў у галактыцы. Адпаведныя распрацоўкі мелі месца яшчэ ў 1920-я гады. Нездарма пра магнітныя буры рэгулярна паведамляюць у СМІ.

Заяву можна было б разглядаць як звычайны бюракратычны артэфакт, калі б не маленькі аспект. У дакуменце Абама патрабуе ад дзяржаўных устаноў падрыхтавацца да «негатыўных праяў касмічнага надвор'я» на працягу 120 дзён. Такія сціслыя тэрміны паспрыялі нараджэнню самых розных тэорый пра тое, што сапраўды стаіць за незвычайным актам.

Натуральна, паўстаў цэлых легіён тых, хто праз 120 дзён чакае нейкага пачатку планетарнага катаклізму. Адразу ўзгадалі так званы «Carrington event» — самую магутную за гісторыю назіранняў геамагнітную буру, якую выклікалі актыўныя з'явы на Сонцы. Праўда, гэта было даўно: 1 верасня 1859 года брытанскі астраном Рычард Кэрынгтан зафіксаваў успышкі на Сонцы і выкіды каласальнай энергіі ў космас. Гэтая маса накіравалася

> **І без ліста Барка Абамы вучоныя даўно працуюць над тым, як мінімізаваць эфект гэтых электрычных штормаў у галактыцы**

да Зямлі і дасягнула яе праз 18 гадзін, выклікаўшы аварыі на ўсіх тэлеграфах у Еўропе і Паўночнай Амерыцы. Заўважылі буру і тыя, хто на той час не карыстаўся дасягненнямі тэхнічнага прагрэсу — паўночныя ззянні назіраліся па ўсім свеце, нават на Карыбах.

Калі верыць песімістам, у Белым доме нешта пранюхалі пра хуткі рымейк «Carrington event», эфект якога, быццам, будзе значна больш за з'яву 1859-га. Хаця б таму, што тады ўся дзейнасць чалавецтва не трымалася на электрычных прыладах. Калі верыць падобным аматарам канспіралагічных тэорый, геамагнітная бура, якую чакаюць у адміністрацыі Абамы, здольная разбурыць нават нацыянальныя энергетычныя сістэмы.

Свае пяць капеек уставілі і расійскія патрыёты, на форумах якіх абмяркоўваецца тэорыя пра распрацоўку ў Злучаных Штатах нейкай новай зброі, здольнай выклікаць эфект маштабнай радыёмагнітнай буры. Маўляў, прыкладна праз 120 дзён чакаецца эксперымент з той зброяй, наступствы якога ніхто не ведае. Таму і прыдумалі тэму пра кепскае касмічнае надвор'е.

Хапае і тых, хто смяецца з панікёраў. Па-першае, яны адзначаюць, што дакумент ад 15 кастрычніка нельга назваць алармісцкім: у ім не гаворыцца пра тое, што трэба тэрмінова рыхтавацца да непасрэднай пагрозы. Хутчэй, гэта бюракратычны цыркуляр, які патрабуе распрацаваць прапановы па паляпшэнні механізмаў маніторынгу за касмічным надвор'ем.

Па-другое, дакумент быў падпісаны Абамам перад паездкай на навуковую канферэнцыю ў Пітсбург, дзе абмяркоўвалася, у тым ліку, пытанне вывучэння космасу. Такая пастанова — добры падарунак навукоўцам, бо абяцае значныя інвестыцыі ў іх праграмы даследаванняў.

Акрамя таго, заклік да вывучэння касмічнага надвор'я пасуе палітыцы Белага дому ў гэтай сферы. Адміністрацыя Абамы заўжды надавала шмат увагі космасу, і ў тым ліку намагалася «дэмілітарызаваць» гэты накірунак. Космас разглядаўся амерыканскім урадам як агульная будучыня цывілізацыі, а не інструмент у міжнацыянальных канфліктах. Невыпадкова адной з апошніх заяў прэзідэнта стаў так званы «Марсіянскі заклік» — абяцанне пачаць каланізацыю Марса ўжо ў 2030 годзе.

Нарэшце, самы значны аргумент супраць тэорый пра канец свету праз 120 дзён. Навукоўцы сцвярджаюць, што падзеі падобнай інтэнсіўнасці, як «Carrington event», паўтараюцца ў сярэднім прыкладна раз на 500 гадоў. Самая моцная бура з пачатку касмічнай эры (з 1957 года) адбылася 13 сакавіка 1989 года. Аднак хіба нехта яе заўважыў?

# Грузія: Разварот на поўнач

Алег НОВІКАЎ

**Упершыню пасля таго, як Грузія 15 гадоў таму абвясціла курс на інтэграцыю ў ЕС, у парламенце краіны з'явілася выразна антызаходняя і прарасійская палітычная сіла — «Альянс патрыётаў Грузіі».**

На першы погляд, падстаў для асаблівых хваляванняў няма. У новым складзе парламента толькі 6 са 150 сябраў уваходзяць у фракцыю «Альянсу патрыётаў Грузіі». На знешнепалітычны курс краіны, і нават на палітычную дыскусію, «патрыёты» наўрад ці змогуць уплываць. Не кажучы пра тое, што ў ідэі еўраінтэграцыі ў Грузіі, як сведчыць статыстыка, застаецца моцная база падтрымкі (за гэта выступае 60–70 працэнтаў выбаршчыкаў).

Аднак сімвалічны капітал прарыву «Альянсу патрыётаў Грузіі» папросту велізарны. Справа не толькі ў тым, што гэта першы поспех еўраскептыкаў пасля таго, як празаходні курс быў абвешчаны нацыянальным выбарам грузінаў. «Альянс патрыётаў Грузіі» атрымаў мандаты на фоне катастрафічнага пройгрышу выбараў вядучай праеўрапейскай сілай — «Адзінага нацыянальнага руху».



І самае галоўнае — частка грузінаў аказалася гатовая галасаваць за прарасійскую сілу ўсяго праз 8 гадоў пасля грузінска-расійскай вайны ў жніўні 2008-га. Усё гэта дае падставы расійскім СМІ заявіць, што ў Грузіі пачаўся паварот на поўнач і разбурэнне празаходняга кансэнсусу.

Каб пагадзіцца або, наадварот, аспрэчыць гэты тэзіс, патрэбны экскурс у гісторыю «Альянсу патрыётаў Грузіі». Каля яго вытокаў знаходзіўся саюз медыйнай кампаніі «Аб'ектыў» і грамадскага руху «Супраціў», які крытыкаваў рэжым Саакашвілі. Старшынёй новастворанага аб'яднання стаў Давід Тархан-Маўраві — прадстаўнік вядомага арыстакратычнага роду, інфарматык па адукацыі, зараз больш вядомы як знаўцы біблейскіх тэкстаў. Ролю генсека партыі выконвае Ірма Інашвілі, вядомая ў краіне журналістка. Менавіта Ірма дапамагла выявіць факты гвалту над зняволенымі ў Гладанскай турме ў 2012 годзе. Іх агучванне стала ўверцюрай да масавых пратэстаў супраць Саакашвілі і правалу яго партыі на парламенцкіх выбарах 2012-га.

Першым выхадам на палітычную арэну для «Альянсу патрыётаў Грузіі» сталі муніцыпальныя выбары 2014-га, на якіх партыя някепска сябе зарэкамендавала, атрымаўшы сумарна 4,6 працэнта галасоў. Але самае галоўнае — яна атрымала правы на дзяржаўнае фінансаванне. Поспех зрабіў раней малавядомы «Альянс патрыётаў Грузіі» прывабным у вачах дробных нацыяналістычных груповак, якія расчараваліся ў праекце «Грузінская мара», і напачатку чэрвеня гэтага года папоўнілі шэрагі патрыётаў. Сярод тых, хто прыйшоў у «Альянс патрыётаў Грузіі», і групоўка «Свабода» пад кіраўніцтвам Канстанціна Гамсахурдзія — старэйшага сына экс-прэзідэнта Звіяда Гамсахурдзія.

Хоць «Альянс патрыётаў Грузіі» і мае імідж антыеўрапейскай сілы, фішкай яго выбарчай прапаганды сталі антытурэцкія лозунгі. Лідары партыі ахвотна палохалі выбаршчыкаў магчымай экспансіяй турак, якія нібы спяць і бачаць, як эканамічна падпарадкаваць Грузію. Доказам наяўнасці ў туркаў агрэсіўных планаў былі факты імклівага пераходу жыхароў суседняй краіны ў грузінскае грамадзянства. Сёння ў Грузіі ўжо 30 тысяч грузін турэцкага паходжання.

Што да антыеўрапейскасці, дык яна выявілася ў патрабаванні перагляду дамовы пра зону вольнага гандлю з ЕС. Патрыёты выступаюць, перш за ўсё, за пашырэнне квот для грузінскіх тавараў на рынку еўрапейскіх краін. Акрамя таго, на іх думку, працэс далучэння Грузіі да NATO занадта зацягнуўся. Сама тэма ўступлення ў NATO ў грузін выклікае такое раздражненне, што лепш пакуль ад яго часова адмовіцца.

Адносіны з Расіяй «Альянс патрыётаў Грузіі» бачыць у ракурсе вяртання ў склад Грузіі абхазскіх і паўднёваасецінскіх тэрыторый. Як кажуць лідары патрыётаў, Масква будзе не супраць перадаць іх пад кантроль Тбілісі за доступ да грузінскіх партоў і ўдзел у кіраванні газатранспартнай сістэмай краіны.

Незвычайны пункт праграмы — фармаванне дзяржаўнага курсу, абапіраючыся на пропаведзі і выступы лідараў грузінскай праваслаўнай царквы. Такім чынам, лічаць патрыёты, можна выратавацца ад панавання сатаны. Жывой ілюстрацыяй таго, што д'ябал сапраўды існуе, у «Альянсе патрыётаў Грузіі» лічаць фігуру Міхаіла Саакашвілі, чыя ганарлівасць, на іх думку, выклікала праблемы для краіны і іншых людзей.

Грузінская прэса адзначае, што сакрэт папулярнасці «Альянсу патрыётаў» звязаны і з тым, што некаторыя лідары партыі некампетэнтныя і не вельмі адукаваныя. Перыядычна яны спрабуюць разважаць на нейкія сур'ёзныя глабальныя тэмы, чым выклікаюць смех у аўдыторыі. Іншымі словамі, мы назіраем эфект Жырыноўскага, калі палітыка ператвараецца ў забаўляльнае шоу.

Цяжка казаць, наколькі «Альянс патрыётаў Грузіі» сапраўды кантралюецца з Масквы. З аднаго боку, лідар партыі Давід Тархан-Маўраві сапраўды прызнае анексію Крыма і сцвярджае, што Украіна распалася. З іншага — у расійскіх СМІ не было ніводнага матэрыялу з рэкламай альянсу. Крамлёўскія медыя выдавалі кампліменты выключна на адрас Ніно Бурджанадзэ. У тым ліку, напэўна, таму, што тая цалкам кантралюе сваю структуру. З «Альянсам патрыётаў Грузіі», дзе рашэнні прымаюцца кулуарна, мець справу больш цяжка.

Але наяўнасць у дробнай партыі ўласнага каналу тэлебачання сведчыць пра руку спонсара. Таму пакуль большасць экспертаў схіляюцца да таго, што «Альянс патрыётаў Грузіі» — гэта ручная партыя «Грузінскай мары». Дарэчы, Давід Тархан-Маўраві ў часы кіравання Эдуарда Шэварнадзэ меў шчыльныя бізнес-адносіны з Бідзінам Іванішвілі — патронам «Грузінскай мары». А вось нашто Іванішвілі гэтыя патрыёты, адказу няма. Ёсць думка, што іх місія — агучваць з трыбуны заканадаўчага органа тое, што не могуць сабе дазволіць дэпутаты «Грузінскай мары». Напрыклад, выступаць за больш шчыльную кааперацыю з Расіяй. Іншыя кажуць, што задача «Альянсу патрыётаў Грузіі» — кантраляваць вернікаў, які ўсё часцей пачынаюць лезці ў палітыку. У любым выпадку, рашэнне наконт будучыні «Альянсу патрыётаў Грузіі» будзе прымацца ў самой Грузіі, а не ў Маскве.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Нурсултан Назарбаеў



Упершыню за час прэзідэнцтва Назарбаева афіцыйны сайт кіраўніка Казахстана паведаміў пра праблемы са здароўем гаранта і пра тое, што ён «знаходзіцца на лячэнні». Па гэтай афіцыйнай прычыне казахскі лідар не змог прыняць удзел адразу ў некалькіх міжнародных мерапрыемствах, у тым ліку ў саміце АДКБ у Арменіі. Навіна пра тое, што Назарбаеў у прынцыпе можа хварэць, выклікала сапраўдны палітычны шторм у экспертнай супольнасці СНД. Частка спецыялістаў лічаць, што Елбасы сапраўды моцна хворы, і ў краіне, па-сутнасці, пачалася аперацыя «пераемнік». Іншыя лічаць, што Назарбаеў зрабіў высновы з узбекскага досведу, дзе смерць Карымава на нейкі час паралізавала грамадства і вертыкаль. Калі Назарбаеў будзе перыядычна хварэць, ягоны скон, мауляў, не выкліча крызісу кіравання. Між тым, як толькі завяршылася ерэванская сесія АДКБ, кіраўнік Казахстана вярнуўся да працы і правёў, як мінімум, дзве сустрэчы. Таму нельга выключаць, што Назарбаеў «захварэў» выключна для таго, каб не ехаць у Арменію. Такі візіт мог быць успрыняты як падтрымка Ерэвана ў Карабахскім канфлікце.

### Тоні Блэр



Не выключана, што мы зноў пабачым тройчы экс-прэм'ера Вялікабрытаніі і былога старшыню партыі лейбарыстаў, магчыма, нават у якасці лідара нацыі. Пра такую перспектыву пачалі казаць пасля таго, як выданне «The Independent» апублікавала дадзеныя аднаго сацыялагічнага апытання. Паводле яго, 36 працэнтаў брытанцаў лічаць, што пад кіраўніцтвам Блэра лейбарысты маюць лепшыя шанцы для перамогі на парламенцкіх выбарах. Больш за тое, ідэя прэм'ерства Блэра больш сімпатычная ў вачах брытанцаў, чым іншага палітыка. Хаця сам Тоні Блэр яшчэ ў верасні бачыў сябе ў будучыні, хутчэй, філантропам, цяпер ён, падаецца, не супраць працягнуць палітычную кар'еру. Каментуючы дадзеныя апытання, ён заявіў, што «пры некаторых умовах бачыць сябе як чалавека, якая вяртаецца ў палітыку». Калі гэта так, то партыю лейбарыстаў чакае новы віток унутрыпартыйнай барацьбы паміж левай і правай фракцыямі. На апошніх партыйных зборах перамаглі левыя, чый лідар Джэрэмі Корбін захаваў пасаду партыйнага старшыні. Праўда, некаторыя правыя лейбарысты не ў захапленні ад ідэі прыходу Блэра, паколькі адразу ўспслывае яго роля ў развязванні вельмі не папулярнай вайны ў Іраку ў 2003 годзе, якая пахавае ўсе шанцы праціўнікаў Корбіна.

### Пол Магнэт



Яшчэ ўчора пра прэм'ера бельгійскага рэгіёну Валонія, напэўна, мала хто ведаў, а сёння кажа ўся Еўропа. З падачы Магнета валонскі парламент прагаласаваў супраць праекту CETA — Дамовы пра свабодны гандаль паміж ЕС і Канадай. CETA лічыцца вельмі супярэчлівым праектам, паколькі, на думку некаторых, выводзіць буйны бізнес з-пад кантролю нацыянальнага заканадаўства ў сферу непразрыстага арбітражу Брусэля. Аднак працэс галасавання нацыянальнымі парламентамі за CETA рухаўся паволі. І тут, прыкладна за тыдзень да гістарычнага саміту ЕС — Канада, на якім планавалася падпісаць дамову, валонцы прагаласавалі супраць. Рэзалюцыя цалкам блакуе праект, паколькі бельгійская канстытуцыя забараняе падпісваць міжнародныя пагадненні без згоды фламандскага і валонскага парламентаў. Цяпер уся бюракратыя ЕС праводзіць тэрміновыя пасяджэнні, каб знайсці выйсце з сітуацыі. Калі верыць прэсе, ёсць думка прапанаваць валонцам нейкі бонус за тое, каб тыя тэрмінова перагаласавалі. Аднак у такой ідэі хапае і крытыкаў, якія баяцца, што прыклад Валоніі будзе заразным для іншых парламентаў. Тэарэтычна, да панядзелка выхад мае быць знойдзены. Між тым, напружанасць нарастае. Сам Магнэт скардзіцца, што яму пачалі пагражаць як аматары CETA, так і яго праціўнікі, якія баяцца, што Валонія перагаласуе папярэдняе рашэнне.

# Валянціна Вяргей: з Бацькаўшчынай у сэрцы

Марат ГАРАВЫ

**Не так даўно сваё 70-годдзе адзначала Валянціна Сяргееўна Вяргей. Яна вядомая не толькі як выбітная даследчыца гістарыяграфіі археалогіі Беларусі і старажытнага мінулага насельніцтва Беларускага Палесся, але і як грамадскі дзеяч.**

Шмат гадоў Валянціна Вяргей займаецца працай па ўшанаванні памяці міжваеннага «расстралянага пакалення» археолагаў, і наогул ахвяраў сталінізму ў Беларусі. Гэтая абаяльная і мудрая жанчына дзесяцігоддзямі шчыруе на ніве беларушчыны.


На беразе Убарці — прытоку Прыпяці (Петрыкаў, 1961 год)


З Юрыем Хадыкам на выставе твораў Яўгена Куліка (Мінск, 1990-я гады)


У раскопе (Петрыкаў, 2003 год)


У Чэхаславакіі падчас вандроўкі па студэнцкаму абмену (Карлавыя Вары, жнівень 1966 года)

## Дзіця Перамогі

Бацька Валянціны Вяргей усю вайну быў шафёрам грузавікоў — спачатку савецкай палутаркі, затым амерыканскага студэбекера. Франтавымі дарогамі ён прайшоў ад Беларусі да Берліна. На пачатку 1946 года ён вярнуўся на радзіму — у Петрыкаў. Праз дзевяць месяцаў у сям'і шафёра Сяргея і бухгалтаркі Таццяны нарадзілася малодшая дачка Валянціна — дзіця Перамогі.

Падчас Другой сусветнай ваявалі ўсе сваякі дзяўчынкі: бацька — у пяхоце, дзядзькі — у артылерыі, на Чарнаморскім флоце і ў авіяцыі. І амаль усе вярнуліся жывымі і цэлымі, апроч артылерыста дзядзькі Ірынея, які застаўся без нагі пад літоўскім Шаўляем. Але ж вярнуўся жывым, бо, як казаў бацька, яго маці Наталля і маці Ірынея Аляксандра маліліся за сыноў усю вайну.

Валянціна ў пяць гадоў навучылася чытаць, тым больш што ў хаце і на гарышчы было шмат кніг на беларускай, рускай і украінскай мовах. Ад прачытанага Валянціну рана пацягнула ў таямнічы свет Палесся — такі вольны, чароўны і зусім яшчэ загадкавы для цікаўнай дзяўчынкі.

Вось тады ёй і далі мянушку «валацуга». Летам бацькі ішлі на працу, а яна — за вясёлкай, на Прыпяць, у лес, на кар'еры, у ваколіцы Петрыкава. І дарма бацькі загадвалі: «Карова з поля, ты — дадому!». Яна вандравала, як вольная птушка.

Валя з ліхтарыкам пад коўдрай чытала любімыя кніжкі, у тым ліку «Эвалюцыю жывёлаў». А магла з печкі на кухні скокнуць у другі пакой і зламаць ложак. Магла разабраць па частках радыёпрымач і гадзіннік. Магла схавацца ад бацькоў пад перакуленай лодкай ля Прыпяці. Так што валацугай яе празвалі нездарма.

У школьныя гады Валянціна хадзіла ў турпаходы, займалася валейболам у мясцовай спартовай школе, гуляла за абласную каманду, а ў студэнцкія гады — за зборную Белдзяржуніверсітэта. Дарэчы, калі ў складзе валейбольнай каманды Гомельскай вобласці падчас Рэспубліканскай спартакіяды школьнікаў у 1961 годзе знаходзілася ў сталіцы і ўпершыню ўбачыла зборы нумізматычнага кабінету БДУ, вырашыла, што стане гісторыкам, а пасля знаёмства са старажытнасцямі Заслаўя на трэцім курсе гістфаку «захварэла» на археалогію.

## З беларушчынай па жыцці

Валянціна Вяргей даследавала адну з найбольш трагічных старонак беларускай гістарычнай навукі ХХ стагоддзя — перыяд рэпрэсій 1930-х гадоў. Яе манаграфія «Археалагічная навука ў Беларускай ССР у 1919–1941 гг.» (Мінск,1992) з'яўляецца адной з настольных кніг навукоўцаў-гуманітарыяў і аматараў айчыннага мінулага. У сховішчы КДБ яна, зразумела, не патрапіла, але працавала ў архівах Мінска, Масквы і Пецярбурга. У выніку ўзнавіла навуковыя здабыткі, лёсы і вобразы заснавальнікаў сучаснай беларускай археалогіі, ахвяр сталінізму Сяргея Дубінскага, Аляксандра Кавалені і Аляксандра Ляўданскага, якія вывучалі культуры жалезнага веку і палеаліту. На думку Валянціны Вяргей, іх забілі за тое, што яны былі свядомымі беларускімі інтэлігентамі і пісалі свае даследаванні па-беларуску.

У сувязі з расстрэлам 27 жніўня 1937-га трох з чатырох супрацоўнікаў толькі створанага сектару археалогіі Інстытута гісторыі Беларускай акадэміі навук, станаўленне гэтай навуковай дысцыпліны было перарвана, аднак тры тамы па айчыннай археалогіі, выданыя рэпрэсаванымі навукоўцамі, не састарэлі да гэтага часу.

Сваю кандыдацкую дысертацыю маладая даследчыца абараняла ў Пецярбурзе, бо з-за расстрэлу заснавальнікаў айчыннай археалогіі ў гэтай навуковай дысцыпліне на Беларусі ў 1970-я гады яшчэ не было сваіх дактароў навук, каб стварыць адмысловы савет па абароне кандыдацкіх дысертацый. Трэба адзначыць, што манаграфія Валянціны Вяргей стала грунтам для напісання шэрагу спецкурсаў і прац па гісторыі беларускай археалогіі.

Валянціна Сяргееўна спрычынілася да актыўнай працы ў шэрагу адмысловых грамадскіх ініцыятыў, такіх, як «Мартыралог Беларусі», «За ўратаванне мемарыялу Курапаты» і «Эксперты ў абарону Курапатаў», у тым ліку да збору звестак пра помнікі і мемарыяльныя дошкі, камяні і крыжы, усталяваныя на тэрыторыі Беларусі ў гонар ахвяр сталінізму. Навукоўцу можна часцяком бачыць у Курапатах, дзе яна апякуецца мемарыяльным крыжам, што 30 кастрычніка 2001 года ўсталявалі айчынныя археолагі ў памяць пра сваіх бязвінна расстраляных калегаў — ахвяраў савецкіх палітычных рэпрэсій.

І зараз даследчыца старанна працягвае свой грамадзянскі чын — складае бібліяграфію па злачынствах сталінізму супраць Беларусі і базу дадзеных па месцах забойстваў ахвяраў таталітарызму на Бацькаўшчыне.

Прыярытэтам навуковай дзейнасці Валянціны Вяргей стала праблема паходжання і фарміравання Пражскай культуры. Гэтая археалагічная культура раннеславянскіх плямёнаў, якія ў V–VII ст. н. э. насялялі тэрыторыю ад Дняпра і возера Ільмень на ўсходзе да Эльбы і Дунаю на захадзе і поўдні. У самастойную Пражская культура вылучана ў 1939 годзе чэшскім археолагам украінскага паходжання Іванам Баркоўскім пад назвай «кераміка Пражскага тыпу». Вядома больш за 500 помнікаў гэтай культуры, прадстаўленых, у тым ліку, селішчамі, могільнікамі і, зрэдку, гарадзішчамі.

Навукоўца выявіла і даследавала ў басейне Прыпяці шэраг помнікаў, якія сталі эталоннымі для Пражскай культуры, у тым ліку жытлы — селішчы Блювінічы ў Брэсцкім раёне і Струга–1 на Століншчыне, гарадзішча ля вёскі Сошна Пінскага раёна і ўнікальны комплекс помнікаў каля вёскі Снядзін на Петрыкаўшчыне з грунтовым могільнікам, трыма селішчамі і металургічнай вытворчасцю з печамі-домніцамі.

Праз дзесяцігоддзі цярплівых палявых даследаванняў, публікацыі і вольныя дыскусіі археолаг разам з калегамі выявіла, што найбольш раннія помнікі Пражскай культуры месцяцца менавіта на тэрыторыі Палесся і Валыні, а таксама грунтуюцца на мясцовых традыцыях.

Знаходкі Валянціны Сяргееўны сведчаць — гэтая культура была распаўсюджана на Беларускім Палессі і склалася тут амаль на два стагоддзі раней, чым у ваколіцах сталіцы Чэхіі. Таму гэту культуру можна назваць Петрыкаўскай. Дзякуючы гэтаму адкрыццю была абвергнутая гіпотэза «палескай белай плямы», згодна з якой Палессе было бязлюдным цягам 150 гадоў (з сярэдзіны I ст. да канца II ст. н.э.) — да прыходу готаў падчас Вялікага перасялення народаў.

Навуковыя працы археолага вызначаюцца дасканалым веданнем рэгіёну, скрупулёзнасцю палявой працы, грунтоўнасцю аналізу матэрыялаў, узважанасцю высноў. А саму даследчыцу вылучае адкрытасць да дыялогу і гатоўнасць падзяліцца ўласнымі напрацоўкамі.

У выніку больш чым 40-гадовай сістэмнай працы даследчыца стварыла на Беларускім Палессі школу археалогіі жалезнага веку і Вялікага перасялення народаў.

Пра высокі аўтарытэт навукоўцы сведчыць і той факт, што шмат гадоў яна ўзначальвала палявы камітэт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, што дае дазвол на правядзенне археалагічных раскопак.

## Для развіцця айчыннай археалогіі

На думку даследчыцы, беларуская археалогія перажывае занапад з-за адсутнасці сродкаў. А яны вельмі патрэбныя для набыцця складанага і дарагога абсталявання, што дазваляе праводзіць матэрыялазнаўчыя экспертызы артэфактаў, здабытых падчас раскопак, і атрымліваць як мага больш карыснай і важкай інфармацыі. Гаворка, між іншым, ідзе пра вывучэнне розных старажытных помнікаў, у тым ліку з каменю, цэглы, металаў, косці і шкла, а таксама пра даследаванні парэшткаў насення зерневых культур, прадстаўнікоў флоры і фаўны старажытнасці.

Апроч таго, патрэбна сумесная праца археолагаў са спецыялістамі сумежных навук — палеантолагамі і палеабіёлагамі, якія на сённяшні дзень адсутнічаюць у штаце акадэмічнага Інстытута гісторыі.

І, канешне, вялікую шкоду айчыннай археалогіі наносіць кантрактная сістэма, якая шмат гадоў абмяжоўвае тэматыку навуковых даследаванняў і свабоду навукоўцаў, стварае непажаданы ідэалагічны ціск на даследчыкаў.

Лявон ЦЕЛЕШ

# «Пуста. Чарнобылем пахне Сусвет»

**Менавіта гэтыя словы з паэмы Уладзіміра Някляева «Зона» прыходзілі на памяць, калі мы з Уладзімірам Цвірко вандравалі па атручанай радыяцыяй зямлі Гомельшчыны.**

### Горад, заснаваны каралевай

Аднак спачатку мы праехаліся па адносна чыстых раёнах Гомельшчыны. І найперш завіталі ў прыгожую мясціну ў Светлагорскім раёне на беразе Беразіны, дзе колісь, 360 гадоў таму, існаваў горад Казімір, заснаваны польскай каралевай і вялікай княгіняй Вялікага Княства Літоўскага Цэцыліяй Рэнатай.

Казімір меў герб, яму было нададзена Магдэбургскае права. Тут была ратуша з гадзіннікам, прыстань. Існавалі ў горадзе шматлікія рамёствы. Сёння на гэтым месцы мог бы існаваць буйны горад. Але ж напачатку 1655 года маскоўскімі войскамі і казакамі пад кіраўніцтвам гетмана Івана Залатарэнкі горад Казімір быў знішчаны, а частка ўцалелых жыхароў была жыўцом спалена ў праваслаўнай царкве. Гэткая «Хатынь сярэднявечча», якую ўтварылі нашы «браты» з усходу. На месцы, дзе была царква, зараз узвышаецца вялізны крыж, а на месцы горада існуе вёска Каралеўская Слабада, якую час ад часу наведвае навалач — «чорныя капальнікі». Менавіта таму мясцовыя жыхары падазрона ставяцца да незнаёмых наведвальнікаў.

На Светлагоршчыне мы таксама наведалі хутар Міколін Востраў, дзе на тэрыторыі аграсядзібы ўзвышаецца прыгожы вятрак, пабудаваны ў XIX стагоддзі. А побач са Светлагорскам, у вёсцы Якімава Слабада, некалі існавала Свята-Мікалаеўская царква. Святаром у ёй быў Іван Гашкевіч, брат вядомага мовазнаўца, падарожніка, першага пасла Расіі ў Японіі, нашага земляка Іосіфа Гашкевіча, які часта наведваў свайго брата.

Наш славуты зямляк нарадзіўся ў Рэчыцкім павеце (зараз Хойніцкі раён), а памёр у Астравецкім раёне. У Хакадатэ (Японія) і ў Астраўцы Іосіфу Гашкевічу ўсталяваныя бюсты. У Светлагорскім раёне таксама нарадзіўся беларускі пісьменнік Васіль Якавенка, а ў самім Светлагорску жыў і працаваў ураджэнец Магілёўшчыны, паэт Ізяслаў Катляроў.


Сімвал Чарнобыля, «мірнага» атама

### Лоева гара

Гарадскі пасёлак Лоеў, размешчаны на месцы ўпадзення Сажа ў Дняпро, уразіў нас сваёй цішынёй і ўтульнасцю. Упершыню Лоеў згадваецца ў 1505 годзе як пасяленне Лоева Гара. Некалі тут узвышаўся замак. Падчас вайны 1654–1667 гадоў Лоеў быў спустошаны войскамі Масковіі.

На беразе Дняпра сваёй прыгажосцю вылучаецца будынак купца Долгіна, пабудаваны ў 1874 годзе. На процілеглым баку — тэрыторыя Украіны.

Мне часта ўспамінаюцца лекцыі па тапаніміцы, якія чытаў у нас на геаграфічным факультэце доктар геаграфічных навук, прафесар Вадзім Жучкевіч, ураджэнец Лоева. Таксама Лоеў — малая радзіма ізраільскага філолага, пісьменніка Аўраама Аўруніна.


Вятрак у Светлагорскім раёне

### Рэчыцкая лірычная

Па дарозе з Лоева ў Рэчыцу мы не маглі не наведаць у вёсцы Перадзелкіна і прыгожую сядзібу з палацам, якая некалі належала Рудзіцкім, а затым Кацярыне Бараноўскай. Зараз у будынку былога палаца размяшчаецца школа.

На пад'ездзе да Рэчыцы мне прыпомнілася песня маёй маладосці «Рэчыцкая лірычная», якая некалі была вельмі папулярнай. Рэчыца ўпершыню згадваецца ў 1213 годзе. Вялікі князь ВКЛ Вітаўт пабудаваў тут замак, які прастаяў 200 гадоў, і быў спалены гэтак жа, як і горад Казімір, у 1654 годзе маскоўскімі ваярамі і казакамі Івана Залатарэнкі. На вуліцы Савецкай амаль побач стаяць два храмы — каталіцкі храм Святой Тройцы і праваслаўны Свята-Успенскі. Сваім размяшчэннем па суседству храмы як бы сцвярджаюць, што Бог і ў каталікаў, і праваслаўных адзіны, і не павінна якая-небудзь адна вера быць у краіне дзяржаўнай, пануючай.

Свята-Успенскі сабор быў пабудаваны ў 1872 годзе. У 1930-я гады ён быў зачынены камуністамі, і да 1999 года выкарыстоўваўся як Дом культуры. Свята-Троіцкі касцёл неагатычнай архітэктуры быў пабудаваны ў пачатку XX стагоддзя. З прыходам да ўлады камуністаў у ім размяшчаліся склад, электрастанцыя і нават бар. У 1999 годзе касцёл быў перададзены вернікам.

Наведалі мы таксама і яўрэйскія могілкі, дзе некалькі гадоў таму вандаламі было пашкоджана шмат помнікаў.

Рэчыца і Рэчыцкі раён багатыя на вядомых людзей. Тут нарадзіліся ці жылі і працавалі вядомы беларускі вучоны Мітрафан Доўнар-Запольскі, народны пісьменнік Беларусі Іван Навуменка, пісьменнік Уладзімір Ліпскі, паэты Анатоль Сыс і Мікалай Чырык, мастак і графік Аляксандр Ісачоў, акцёр тэатра і кіно, народны артыст СССР Яфім Капелян. У Рэчыцкім раёне, у вёсцы Ямпаль, мы пабачылі прыгожую драўляную царкву Святога Іаана Багаслова, пабудаваную ў 1902 годзе.

Раёны, якія мы наведалі ў першы дзень нашага падарожжа, лічацца чыстымі ад радыяцыйнага забруджання, хаця і над гэтымі тэрыторыямі былі асаджаныя радыяцыйныя хмары. На наступны дзень мы скіраваліся да помнікаў, размешчаных у пахаваных вёсках і ў райцэнтрах, найбольш пацярпелых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

### Мёртвыя вёскі

У мёртвай вёсцы Дзям'янкі, што знаходзіцца ў Добрушскім раёне, мы наведалі сядзібу, якую пабудаваў у канцы XIX стагоддзя Мікалай Герард. Знаходзіцца яна на аўтадарозе Добруш — мяжа з РФ, і трапіць да яе магчыма толькі праз шлагбаум, маючы на руках пропуск — дазвол на ўезд у радыяцыйную зону. Не ведаючы гэтага, мы з Веткі па палявой пыльнай дарозе праехалі недзе кіламетраў 20, і выехалі на гэтую патрулюемую дарогу. Да Дзям'янкі засталося праехаць каля пяці кіламетраў, калі нас затрымаў пільны міліцэйскі нарад, і мы мусілі з'ездзіць у Добруш, дзе нам выпісалі пропускі на ўезд у зону.

Да аб'екта мы ехалі ў суправаджэнні ганаровага эскорту — тых самых міліцыянераў, якія паказалі нам месцазнаходжанне амаль зруйнаванага, а некалі прыгожага сядзібнага палаца.

У пахаванай вёсцы Першамайскі Веткаўскага раёна ўзвышаюцца руіны двухпавярховага, некалі прыгожага палацавага будынку, узведзенага ў канцы XIX стагоддзя. Руіны гаспадарчых цагляных пабудоў, пахаваныя сялянскія хаты — усё гэта настройвае не на лірычны лад. На Веткаўшчыне мы наведалі яшчэ некалькі вёсак са старажытнымі цэрквамі.

Трэба адзначыць, што ў Веткаўскім раёне не існуе прапускной сістэмы ў мёртвыя вёскі, бо такіх тут вельмі шмат. І, калі б увялі гэтую сістэму, давялося б зачыняць для наведвання ўвесь раён.

На Веткаўшчыне нарадзіўся вядомы савецкі дыпламат, нязменны міністр замежных спраў былога СССР Андрэй Грамыка, а таксама паэт Дзмітрый Кавалёў.

Наступным пунктам стаў Чачэрск, вядомы з XII стагоддзя. У гэтым горадзе нашу ўвагу прыцягнула Спаса-Праабражэнская царква, пабудаваная ў 1779 годзе, помнік архітэктуры класіцызму. У адкрыцці яе брала ўдзел расійская імператрыца Кацярына II. У алтары царквы захоўваецца ўнікальная ікона «Сашэсце ў пекла», датаваная 1678 годам. У цэнтры горада ўзвышаецца незвычайнай архітэктуры ратуша, пабудаваная ў XVIII стагоддзі графам Чарнышовым у стылі класіцызму.

Чачэрская зямля — малая радзіма беларускіх паэтаў Леаніда Гаўрылава і Васіля Карпечанкі, а таксама заслужанай артысткі Беларусі Веры Пархоменкі.

Наперадзе — новыя вандроўкі па Магілёўшчыне, Брэстчыне і Віцебшчыне, новыя ўражанні, якімі я спадзяюся падзяліцца з чытачамі.


Вёска Перадзелкіна. Сядзібны дом (XIX ст.). Зараз — школа


Уладзімір Цвірко ля возера Святое, Чачэрск


Лоеў. Дом купца Долгіна. На другім беразе Дняпра — братняя Украіна




# «Гняздо–2» Паліны Качатковай

Генадзь КЕСНЕР

**У прыватным краязнаўчым музеі вёскі Стаўры, што пад Оршай, прайшла прэзентацыя новай кнігі пісьменніцы і грамадскай дзеячкі Паліны Качатковай (Сцепаненка) «Гняздо-2».**

На імпрэзу прыехалі вядомыя дзеячы культуры і мастацтва, сябры і калегі Паліны: з Мінска — старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч і паэт Міхась Скобла, рэжысёры Віктар Корзун, Алег Дашкевіч і Вольга Мікалайчык, барды Кася Камоцкая і Андрэй Мельнікаў, старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна» і пісьменнік Алесь Бяляцкі з жонкай Наталляй і сябра арганізацыі Алена Лапцёнак; з Віцебска — маці расстралянага па абвінавачанні ў тэракце ў мінскім метро Улада Кавалёва Любоў Кавалёва і вядомая журналістка Алена Сцяпанава, а таксама прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі з Оршы, ды іншыя.

Сама аўтарка патлумачыла, чаму было вырашана зрабіць прэзентацыю акурат на Аршаншчыне. «Мы шмат пра гэта гаварылі з Алесем Шутавым, якога нядаўна не стала з намі. Мы гаварылі пра гэта яшчэ летам падчас паездкі ў Чарнігаў. І гаварылі, што, можа быць, было б добра зрабіць нефармальны літаратурны фестываль на зямлі Уладзіміра Караткевіча, каб не толькі ў нейкіх дамах культуры адбываліся літаратурныя чытанні, але можна было б пачытаць недзе на вуліцы, таму што тут не хапае вольнага слова, менавіта літаратурнага. Алесь Шутаў, калі мы наведвалі яго ў бальніцы, абяцаў, што будзе 15 кастрычніка на нашай імпрэзе. Але ніхто не ведае свайго лёсу — Алесь памёр, і сёння яго няма разам з намі. Таму мне хацелася, каб такая вечарына была ў падобным фармаце не апошняй, каб сюды прыязджалі людзі, каб збіраліся аршанцы. Каб чыталіся творы, і каб з гэтага быў такі пачатак, таму што ў Оршы цудоўная энергетыка, вельмі прыемныя людзі, многа інтэлігенцыі, яны надзвычай шмат паміж сабой кантактуюць, але ў Мінску пра гэта мала ведаюць. І ўсё гэта вельмі хацелася б ажывіць», — пажадала Паліна Качаткова.

У новай кнізе літаратаркі аб'яднаныя апавяданні 1987–1990 гадоў, а таксама творы, напісаныя пасля 2012 года, і аповесць «Паэт» пра класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча. Месца правядзення прэзентацыі было абрана невыпадкова, бо пісьменніца сама нарадзілася ў Оршы.

# Сабакатэрапія — суцэльны пазітыў

Марына ДРАБЫШЭЎСКАЯ

**Жыхары Гомеля на мінулых выходных змаглі забяспечыць сабе пазітыўныя эмоцыі. У горадзе праходзіў публічны сеанс «сабакатэрапіі», на які можна было прыйсці і пагуляць з чужым гадаванцам.**


Валанцёры прытулку «Астравок» прывезлі на акцыю чатырох сваіх гадаванцаў

Каністэрапія, або сабакатэрапія, вядомая яшчэ з часоў Гіпакрата. Гэты від зносін паміж чалавекам і сабакам выкарыстоўваецца ў сусветнай медыцыне для развіцця мысленчых і эмацыйных здольнасцяў, паляпшэння маторыкі і руху, а таксама для сацыяльнай адаптацыі людзей з асаблівасцямі. У Гомелі ж знайшлі свой падыход — пазітыўныя эмоцыі і прадухіленне кепскага настрою.

«Сэнс акцыі ў тым, каб падарыць як мага больш эмоцый дзецям і іх бацькам, даць ім шанец проста пажамкацца з сабакамі, — распавёў арганізатар Юрый Сігай. — Таму што не ўсе могуць сабе дазволіць сабаку, не ўсе могуць яго ўтрымліваць: або не маюць месца, або ёсць нейкія іншыя прычыны. А «Сабакатэрапія» — гэта такое мерапрыемства, дзе можна пагуляць з сабакамі, пабегаць, падурэць і пры гэтым сабаку не трэба будзе забіраць сабе дамоў».

Але гэтым разам шанец забраць аднаго з чатырохлапых удзельнікаў мерапрыемства быў — чатырох сваіх гадаванцаў прывёз Рэчыцкі прытулак «Астравок».

«У нас ёсць добрыя сабакі, якіх можна і пагладзіць, і палашчыць, — адзначыла кіраўніца прытулку «Астравок» Святлана Ашэка. — Для іх гэтая акцыя — выдатны шанец знайсці сабе новых гаспадароў. Таму нам хацелася іх паказаць. І хоць мы знаходзімся даволі далёка ад Гомеля — мы прыехалі, каб паказаць, што ёсць жывёлы, нічым не горшыя за тых, якіх людзі набываюць у заводчыкаў, і што гэтыя жывёлы маюць патрэбу ў «добрых руках».

Таксама адным з аспектаў «сабакатэрапіі» было выхаванне: гаспадароў вучылі браць з сабой пакункі і прыбіраць за сваім сабакам падчас выгулу, а тым, хто жывёл не мае, прышчаплялі добрае стаўленне да чатырохлапых, што зараз у беларускім грамадстве актуальна, як ніколі.

«Мы не ставілі перад сабой нейкай глабальнай мэты выхавання цярпімасці да жывёл з боку грамадства, але хацелася б спадзявацца, што ў нас атрымаецца таксама і прышчапіць пэўную культуру як да сабакаводаў, якія мусяць прыбіраць за сваімі жывёламі, так і проста добрага стаўлення да жывёлаў людзей, якія іх не маюць. Першаснай мэтай гэтага мерапрыемства ўсё ж былі радасць і ўсмешкі, але калі атрымаецца дасягнуць чагосьці больш глабальнага — як таго ж добрага, прыязнага стаўлення да жывёлаў — будзе выдатна», — адзначыў Юрый Сігай.

На правядзенне такой акцыі Юрыя натхнілі ўласныя сабакі — такса Панда і джэк-расэл Вукі: «Яны штодня прыносяць нам радасць, уздымаюць настрой: калі кепскае надвор'е ці ты стомлены — ты ўсё адно адчуваеш пазітыў ад іх. І я падумаў: чаму б ні падзяліцца гэтым з іншымі людзьмі?»

І сапраўды, гэткая ідэя стала вельмі цікавай для гамельчукоў: на этапе планавання арганізатары атрымалі ў сацыяльных сетках шмат пазітыўных водгукаў і каментараў. Па выніку мерапрыемства наведала блізу ста чалавек: людзі прыходзілі, гулялі з сабакамі, сыходзілі, а на іх месца прыходзілі іншыя.

«На гэтым мерапрыемстве людзей нашмат больш, чым жывёлаў, таму можна смела казаць, што яно атрымалася вельмі папулярным сярод гамельчукоў. Асабліва сярод дзяцей, бо яны хочуць камунікаваць з жывёламі, яны просяць завесці сабаку ці ката, — але не ўсе сем'і могуць гэта сабе дазволіць. Да нас у прытулак таксама даволі часта прыязджаюць бацькі з дзецьмі, каб проста пагуляць з коцікамі ды сабачкамі ды ацаніць, напрыклад, ці будзе дзіця даглядаць чатырохлапага сябра, калі яны возьмуць яго сабе. Бо гэта вельмі складана, калі жывёла і дзіця ў сям'і», — заўважыла Святлана Ашэка.

Арганізатары паабяцалі, што будуць праводзіць такія мерапрыемствы і надалей, каб дарыць цяпло і ўсмешкі і аддаваць частку сябе і сваіх гадаванцаў тым, хто мае ў гэтым патрэбу.

КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя: 3012741108019 Лицевой счет: Код 739
УНП*: 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
ці **атрымаць бясплатна:** (8029) 666 45 29, Анатоль
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **3 рублі 20 капеек, квартала — 9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1023

Падпісана да друку 21.10.2016. 8.00.
Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.